

Перапёлка→3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ



Алесь Анціпенка→9


PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 23 (2978) Год LVIII | Беласток, 9 чэрвеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Дыялогу няма

**Зорка ўсходнеўрапейскай драмы, беларус Павел Пражка ў прынцыпе не дае інтэрв'ю. «Тое, што я павінен сказаць, я пішу ў п'есах», — паўтарае. За пастаноўкі п'ес за мяжой загадвае плаціць спецыяльна сабой назначаны аклад, а не танцьемы. Гэта самы папулярны беларускі драматург за межамі Беларусі, асабліва ў Расіі. У сваёй краіне малавядомы, недаацэнены, амаль яго ў Беларусі не ставяць, апрача апазіцыйнага «Свабоднага тэатра». Афіцыйныя беларускія тэатры асмельваюцца інсцэніраваць не больш чытання яго тэкстаў. Між тым аж тры яго п'есы былі паказаны ў ходзе нядаўна праведзенага фестывалю «Сучасны тэатр, драма, перформенс — Расія» ў Варшаве. Пры нагодзе драматург адказаў «Ніве» на некалькі пытанняў.**

Павел Пражка нарадзіўся ў 1975 годзе ў Мінску. Скончыў прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Вучыўся ў Міжнародным інстытуце працоўных і сацыяльных адносін на факультэце права і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў (спецыяльнасць «драматургія»). Ні адной з гэтых вучэльняў не скончыў. Працаваў слесарам, ахоўнікам, кантралёрам ачышчальных прылад. Драмы піша з 2004 года. Удзельнік семінараў, праведзеных у Маскве прэстыжным лонданскім тэатральным «камбінатам» Royal Court Theatre, а таксама шэрагу семінараў і фестываляў. Практычна ўсе яго п'есы былі рэалізаваны ў многіх тэатрах Расіі, у асноўным Масквы і Санкт-Пецярбурга. Шматразова ўзнагароджаны на фестывалях і конкурсах. Параўноўваны крытыкамі з Антонам Чэхавым з-за пачуцця назірання, бачання чалавека праз павелічальнае шкло. Пастаянна жыве ў Мінску.

На варшаўскім фестывалі паказаны былі тры яго п'есы: «Зачыненыя дзверы» (чытка п'есы адбылася ў пачатку вясны ў беластоцкім Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў рэжысуры Аляксандра Гарцуева, мастацкага кіраўніка Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі ў Мінску, і з удзелам акцёраў гэтага тэатра), «Жыццё прыгожае» і «Салдат». Першы і апошні ў рэжысуры Дзмітрыя Ваўкастрэлава з Санкт-Пецярбурга, працуючага на пастаяннай аснове з беларускім драматургам, складаецца ўсяго з двух сказаў, і сам выступ займае ўсяго некалькі хвілін. Павел Пражка напісаў п'есу, дадаў героя, але аказалася, што нешта тут не так, чарговыя сказы размываюць тое, што на самай справе аўтар спрабуе сказаць. Амаль усё пайшло ў кошык. Засталіся два сказы. Гледачы сядзяць у памяшканні, на якога сцэне адлюстроўваецца прамая трансляцыя з ваннай. Пад душам мыецца хлопец. Відаць нядбайна кінутую на крэсла ваенную форму. Хлопец праз некалькі хвілін выходзіць з-пад душа, абгортваецца ручніком і ідзе на кухню, дзе рыхтуе што-небудзь паесці (можам толькі пачуць характэрны гук мікрахвалевай печы). Нарэшце даходзіць да гледача — як быццам у пакой і кажа: «Салдат выйшаў на выхадныя. Калі трэба было вярнуцца ў войска, салдат не вярнуўся». Выходзіць, зачыніўшы за сабой дзверы. Дзмітрый Ваўкастрэлаў у Варшаве падчас фестывалю сказаў, спасылаючыся на свае пастаноўкі п'ес Паўла Пражкі, а асабліва на «Зачыненыя дзверы»:

— Павел Пражка вельмі правільны ў канструкцыі сваіх тэкстаў. Прадстаўлены ім свет і партытура гукаў гэтага свету надзвычай дакладныя. Мы хацелі, каб адлюстраваць гэтую дакладнасць і галоўным чынам дакладна перанесці словы, кропкі, коскі, клічнікі і ўсё астатняе з паперы ў прастору. Без памылак выканаць гэты тэкст, якому мы поўнасцю давяраем.

Мінскі драматург, спачатку недаверлівы і неахвотна, але потым, пераканаўшыся, адказаў «Ніве» на некалькі пытанняў. Мы спыталі ў пачатку, чаму ён не функцыянуе шырока са сваімі працамі ў тэатральнай прасторы Беларусі.

— Гэта пытанне не да мяне, а да тых, хто мог бы рэалізаваць мае тэксты на сцэне. Я нават не хачу думаць пра гэта, чаму б мне гэта рабіць. Мабыць, ёсць нейкія прычыны, якімі кіруюцца дырэктары беларускіх тэатраў і чыноўнікі, але мяне гэта не цікавіць. Калі я пачну думаць пра гэта, уцягнуся ў нейкую абавязваючую кан'юнктуру, а яна мяне не цікавіць.

Чаму піша на рускай, а не на беларускай мове? — распытвалі мы.

— Таму, што я недастаткова добра ведаю беларускую мову. Не хачу браць на сябе місію ў мэтах адаптацыі літаратурнай беларускай мовы ў гутарковую. Мае тэксты нелітаратурныя, не для чытання. Гэта варыянты для будучай працы рэжысёраў і акцёраў. Паколькі я валодаю лепш рускай мовай чым беларускай, гэтую мову выкарыстоўваю пры пісанні.

Дадаў:

— Ёсць у нас літаратурная беларуская мова, якая развіваецца. У паўсядзённым жыцці, аднак, я не бачу, каб





Павел Пражка

адбываліся нейкія абставіны неабходныя для прарыву беларушчыны. Я чую вакол трасянку і рускую мову. Калі ў маёй п'есе будуць героі, выведзеныя з інтэлектуальнай эліты, якія гавораць па-беларуску, я буду пісаць на гэтай мове. Але ўкідаць у тэкст беларускую мову, калі мае героі кожны дзень на ёй не размаўляюць, я не магу. Калі б я хацеў даць тэкст нашай гутаркі, не напісаў бы па-польску, таму што мы не гаворым па-польску.

Мы спыталіся таксама, чаму вырашыў мець справу з драмай.

— Гэта дзіўнае пытанне, таму што пра гэта, чаму я пішу. Так склаліся ўмовы. Мне гэта лёгка даецца. У мяне няма канкрэтнай мэты, каб несці сацыяльнае заданне. Я не стаўлю перад сабою нейкіх глабальных задач. Я не планаваў, што буду пісаць спецыяльна для тэатра. Так і здарылася.

Мы спыталіся, адкуль у ім патрэба пошукаў новай тэатральнай мовы.

— Можна выказаць здагадку, што ўсё ўжо напісана, і нічога новага няма, але ўсё яшчэ спрабую вызначыць, ці ёсць штосьці-небудзь новае. Мне цікава знайсці нешта, што адрозніваецца ад сталых падзей, структур, і сказаць нешта аб іх. Гэта чыста суб'ектыўнае; у прыватным парадку. Я не магу адчуваць радасці, перажываць, глядзеўшы ўсё той жа фільм. Я больш настаўлены на нейкае даследаванне, чым атрыманне канкрэтнай эмоцыі, хаця ў маёй цікавасці, ядома, таксама эмоцыі.

Мы цікавіліся, для чаго выкарыстоўваюцца ў тэксце яго п'ес рэмаркі, якія, як і ў «Зачыненых дзвярах», іграюць вядучую ролю.

— Таму што я не пішу літаратурацэнтрычных тэкстаў. Увогуле, я думаю, што няма дыялогу. Дыялог вынайшлі старажытныя грэкі, а ў прыродзе ён асабліва не спатыкаецца.

У час фестывальнай сустрэчы з публікай, калі ў яго спыталіся, дзе ён знаходзіць герояў, Павел Пражка адказаў коратка:

— Гэта ўсё мае знаёмыя. Я ведаю іх і хачу пісаць пра іх. Гэта тыя людзі, якіх я вельмі добра ведаю, часта з імі сябрую. Я з галавы не ўмею прыдумаць персанажаў, для мяне гэта занадта абстрактныя канструкцыі.

Перакладчыца п'ес Паўла Пражкі Агнешка Любаміра Пятроўская (яна таксама з'яўляецца аўтаркай новых перакладаў п'ес Антона Чэхава) у інтэрв'ю «Ніве» падчас фестывалю патлумачыла, чаму яна думае, што Павел Пражка — як яна сама вызначыла — геніяльны драматург:

— Гэта не толькі маё меркаванне. У гэтым выпадку, тэатральныя крытыкі аднадушныя. Гэта аўтар, які ўмее ўвесь час развівацца. Надалей аспрэчвае тое, што да гэтага часу дасягнуў, у станоўчым сэнсе. Не спыняецца на тым, што быў у стане атрымаць у пошуку формы, мовы. Ён непараўнальны. Пражка адрозніваецца ад іншых аўтараў, якія ў рускамоўнай драматургіі пасля выбуху ў пачатку 2000-х гадоў крыху спыніліся, недзе селі на мель. П'еса «Салдат» у два сказы хвалюе. Адзін з польскіх тэатральных крытыкаў напісаў, што гэта абсалютная эмацыянальная бомба. П'еса «Я свабодны» напісана фотаздымкамі. Пражка ў свой час быў каралём ненарматыўнай лексікі на сцэне. Гэта можна ўбачыць у п'есе «Жыццё прыгожае». Ён тут паэт ненарматыўнай лексікі, фантастычна гуляе грубымі словамі, і ў той жа час не абурае. Гэта аўтар, які фантастычна адчувае свет і сучаснага чалавека.

Яна таксама заўважыла, калі мы спыталіся, чаму на яе думку так шмат беларускіх драматургаў піша на рускай мове:

— Аўтары ўсяго тамашняга постсавецкага абшару пішуць па-руску, каб мець больш лёгкі доступ да тэатральных рынкаў.

Беластоцкі тэатр «Trzyrzecze» (у рамках папулярызацыі беларускай драматургіі) прымервацца да таго, каб паказаць п'есу Паўла Пражкі «Трусы», якая выклікала шмат спрэчак галоўным чынам з-за вульгарызмаў, якія ў навейшых творах аўтар штораз менш прымяняе.

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



# Самазнішчэнне

Неспакойна, вельмі трывожна апошнім часам у Старым і Новым свеце. Мала таго, што бесперапынныя прыродныя катаклізмы — то тарнада ў Амерыцы, то паводкі ў Еўропе даймаюць насельнікаў, раз-пораз, з ужо стабільнай перыядычнасцю адбываюцца тэрарыстычныя акты, узнікаюць сацыяльныя альбо міжэтнічныя канфлікты. Гадамі і дзесяцігоддзямі ўрады развітых краін вялі бяздумную неабачлівую палітыку ў дачыненні да эмігрантаў і вось вынік — то ваёўныя ісламісты ў Англіі заражуць на вачах іншых людзей брытанскага салдата (заўважце, заражуць не ў стане афекту, а спакойна і асэнсавана з дэманстрацыяй гэтага іншым!), то ў Швецыі ў некалькіх кварталах розных гарадоў пачынаюць „раптоўна" паліць аўтамашыны грамадзян, то ў Францыі ідуць пагромы. Гадоў дванаццаць, калі мы са светлай памяці Зміцерам Кісялём трапілі ў шведскі Мальмё, мы ніяк не маглі зразумець, чаму там пражываюць цэлыя кварталы самалійцаў, якія поўнасцю знаходзяцца на ўтрыманні дзяржавы. Вось баснякі-бежанцы, якіх было процьма ў Швецыі, пасля заканчэння вайны на Балканах, у сваёй большыні павярталіся на радзіму. А колькасць бежанцаў з Самалі ўсё расце. На нашы лагічныя пытанні — навошта гэта патрэбна шведскай дзяржаве — уцямнага адказу мы так і не атрымалі. Гаварылася нешта пра новыя працоўныя рукі. Толькі якія там рукі, калі яны зусім не працуюць, а жывуць толькі на сацыяльную дапамогу. Тое ж і ў іншых краінах Еўропы. Цяжка зразумець такую палітыку, бо каб ім была патрэбная сапраўды рабочая сіла — то бралі б працавітых беларусаў ды ўкраінцаў, якія і злачыннасці не ствараюць, і да заходняй ментальнасці блізкія, лёгка інтэгруюцца ў грамадства. Але ж не, краіны развітай дэмакратыі, наадварот, зачыняюць свае межы для нашых людзей. Апошні прыклад з адмовай у візе вядомаму беларускаму выканаўцу Зміцеру Вайцюшкевічу менавіта з такой серыі. Выдатнаму прадстаўніку беларускай культуры нейкі дробны бюракрат пасольства Вялікабрытаніі не даў візы на канцэртны выступ, дыскрэдытаваўшы тым самым усю сваю дзяржаву.

Увесь матэрыяльны дабрабыт на Захадзе, культурныя і прававыя заваёвы здзейснены ранейшымі пакаленнямі, заваяваны нацыянальнымі традыцыямі жыхароў гэтых краін. Палітыка „мультыкультурнасці" не проста пераживае крызіс, яна прыводзіць да поўнага краху, самазнішчэння. У дзяржавах узнікаюць не проста асяродкі нацыянальных меншасцей, супраць якіх я нічога не маю. Паўстаюць цэлыя крымінальныя супольнасці, мікракраіны ў краінах, закладваюцца такія міны запаволенага дзеяння, якія могуць прывесці да міжэтнічных войнаў і гібелі дзяржаў. Самае страшнае, што цывілізаванага эвалюцыйнага выхаду з гэтага становішча ўжо не праглядваецца зусім. Што рабіць з гэтымі мільёнамі мігрантаў, якія не інтэграваліся і ўжо ніколі не інтэгруюцца ў дэмакратычнае заходняе грамадства!? Левым сацыялістычным урадам, такім як урад Аланда ў Францыі, гэта абходзіць мала, такія палітычныя плыні жывуць паводле прынцыпу „пасля нас хоць патоп". Абы выйграць на выбарах кожным коштам, абы ўтрымацца пры ўладзе.

У ціхім горадзе над Нёманам тыдзень таму таксама здарыўся сапраўдны міжэтнічны канфлікт. У адным са студэнцкіх інтэрнатаў Гродна туркменскія „легіянеры" збілі мясцовых навучэнцаў. Канфлікт успыхнуў па віне прыезджых і нібыта ў чэсный бойцы беларусы ўзялі верх, але ноччу адбылася ўжо бойня без правілаў, калі туркмены сцягнулі дадатковыя сілы і збівалі безабаронных сонных студэнтаў у пакоях ужо без разбору. На афіцыйным сайце ўніверсітэта пра гэтае надзвычайнае здарэнне — ні слова. Ці будзе пачата крымінальная справа — невядома. Па словах дасведчаных людзей гэтыя „нафтадоларавыя" студэнты з „братняга Туркменістана" так разбэсціліся ў выніку вельмі ліберальнага да іх стаўлення з боку выкладчыкаў і адміністрацыі ўніверсітэта. Цяпер нібыта за гэтых сыноў туркменскай наменклатуры возьмуцца сур'ёзна...

У кожным разе такія праблемы ўзнікаюць тады, калі ўрады краін адмаўляюцца ад сваіх традыцый, выракаюцца сваіх нацыянальных каранёў. Калі размываецца нацыянальная ідэнтычнасць, траціцца і аснова, грунт грамадства. Як ні парадаксальна, але Еўропа і сённяшняя Рэспубліка Беларусь у гэтым вельмі блізкія і падобныя.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# А хай яго тарантула!



Беларусь ледзь дыхае пад цяжарам чарговых егіпецкіх бед. Апошнім часам тарантулы напалі на поўдзень краіны. На шчасце, гэтыя атрутныя павукі спяць на працягу дня. Уначы — не кусаюцца. А які прыстойны грамадзянін сноўдаўся ў поцемках? Мо нейкі злачынца або ў крайнім выпадку сумны дзядзька з КДБ. Тут цябе я знайшоў! Не так даўно гойсала па Беларусі нейкая чупакабра, сеючы спусташэнне ў прыхатніх куратніках. Аб плязе шаблязубых гіганцкіх баброў толькі намякну — з павагі да трагічных ахвяр. Падобна як і пра ўварванне плюшавых мішак некалькі месяцаў таму. Пасадка гэтых цацак была, вядома, прычынай мора слёз пралітых малымі беларусяняткамі, калі ў барацьбе з дыверсіяй спецслужбы выдзіралі з іх абдымак любімыя талісманы. Яны гэтага ўладзе не забудуць!

Можна сказаць, што Беларусь з'яўляецца сумай усіх бед, а, магчыма толькі адной — але я не буду нікога паказваць пальцам. Дзіўна, аднак, што прэзідэнт Лукашэнка да гэтага часу карыстаецца прызнаннем большай часткі грамадства, нягледзячы на свае няўдачнае ўладаранне, падмываючае фундаменты дзяржавы. На жаль, яго аканомская пуга не стымулюе эканамічнага росту. Буйнагабарытная адміністрацыя дзяржавы, якая валодае амаль усім беларускім багаццем, не ў стане задаволіць эфектыўнае кіраванне. У крайняй меры эфектыўна ў стане замаскіраваць сваю некампетэнтнасць. Класічным прыкладам гэтаму з'яўляюцца апошнія і магутныя павышэнні заработнай платы. У красавіку гэтага года сярэдняя заработная плата вырасла да 4 888 296 рублёў, вартых больш за 500 долараў ЗША. «Так шмат беларусы ніколі яшчэ не зараблялі» — заявіў тыднёвік «Наша ніва». Гэта праўда. Ды гэта прычына да вялікага лямантy. Бо наступная чума — чума грошай без пакрыцця адаб'ецца на ўсіх працаглай ікаўкай. Першыя яе сімптомы ўжо з'явіліся ў выглядзе адмоўнага сальда знешняга гандлю і... перавытворчасці трактароў. Прычым, не толькі трактароў.

Дэфіцыт у 2012 годзе склаў амаль паўмільярда долараў. Гэта абазначае, што дзяржбюджэт на столькі збядneў. Па дадзеных Нацыянальнага банка абменны курс беларускага рубля ў кошыку валют працягвае зніжацца. Прадказваецца, што ў канцы года адбудзецца дэвальвацыя рубля на цэлыя 30%. Часовае балансаванне бюджэту замежнымі (у асноўным рускімі) крэдытамі можа толькі запаволіць працэс. Тым не менш, палітычныя кошты гэтага непрадказальныя. Ніхто не прапануе грошай ні за што, асабліва прагная Расія. Крэдытуючы беларускі бюджэт яна толькі дацiскае рэгрэсіўную спружыну, якая рана ці позна адаб'ецца ў другі бок, расшчапляючы Беларусь як арэшак. І бадай у яе такі стратэгічны апетыт — не беларуская, дэкапіталізаваная па змесце дзяржава, цяжкатраўная як шкарлупіна, а тое, што з'яўляецца сакавітым ядром: эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял і сыравіннае багацце.

На жаль, філасофія кіравання, прадстаўляная Аляксандрам Лукашэнкам, хоць і па-дыялектычнаму правільная, аслабляе дзяржаўную шкарлупіну знутры. У эканоміцы колькасць не ідзе ў якасць. Непатрэбных цівкоў нарабілі ўжо столькі, што калі б па ўсёй краіне павырываць старыя і на іх месцы ўбіць новыя, то з застаўшагася запасу хапіла б яшчэ на тое, каб шчыльна абабіць дошкамі цэлую Беларусь. Але не бярыце ў галаву цвікоў! На стаянках Мінскага завода ржавее ўжо 10 тысяч новых сельскагаспадарчых трактароў. Гэтак жа адбываецца ў сталічным заводзе грузавых аўтамабіляў і сельскагаспадарчай тэхнікі ў Гомелі. Бо хаця грамадзяне не скардзяцца на недахоп наяўных, іх заводы, калгасы, кааператывы фінансава канчаюцца. Усё ж, у рэшце рэшт, дзяржаўнае, а дзяржава грошай не мае. Нават у гэтым выпадку вытворчасць працягваецца. Людзі, вядома, павінны працаваць. І калі яны працуюць, не страйкуюць, бо і чаго? Задума прэзідэнта Лукашэнкі, каб бескарысныя новыя машыны раздаць дарам калгасам з'яўляецца мадэльным прыкладам савецкай эканомікі ў пераліванні з пустога ў парожняе. Калгасы як былі, так і застануцца нерэнтабельнымі. Тэхналагічна састарэлая цяжкая прамысловасць усё больш будзе абцяжарваць дзяржбюджэт выдаткамі на сваю непатрэбную вытворчасць. Аднак Аляксандр Рыгоравіч не дапускае думкі аб прыватызацыі дзяржаўнага і штораз больш іржавага багацця. Таму што прыватызацыя гэта расстрой бягучай філасофіі празмерна апякунчай дзяржавы, якая ў сваю чаргу патрабуе ад грамадзян абсалютнага паслушэнства. Гэта таксама канец маналогу ўлады і пачатак дэмакратычнага дыялогу, які Аляксандру Лукашэнку асацыюецца з... підарствам. Ну хай яго тарантула!

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Скіны ўкараніліся



Пад эгідай падляшскага ваяводы Мацея Жыўны ўжо двойчы (22 і 27 мая) сустрэлася ў апошні час у Беластоку спецыяльная Група па процідзеянню ксенафобіі і расізму. Гэтак сталася пасля эскалацыі інцыдэнтаў — найбольш праўдападобна — на расісцкай глебе ў рэгіёне, асабліва пасля трох спроб падпалу кватэр замежнікаў у беластоцкіх мікрараёнах Лясная Даліна і Зялёныя Пагоркі. Аб неабходнасці дзейнасці такой групы ўспамінаў у сталіцы Падляшша некалькімі днямі раней кіраўнік Міністэрства ўнутраных спраў Барталамей Сянкевіч. Ён запэўніваў тады, што «будуць запушчаны ўсемагчымыя меры», каб вінаватыя ў падпалах жылля замежнікаў у Беластоку і расісцкіх інцыдэнтах былі выяўлены і пакараны. Абяцаў:

— Прыменім усемагчымыя рэсурсы, намаганні і сродкі, каб такія інцыдэнты не паўтараліся ў будучыні. І дзяржава ў гэтым выпадку будзе дзейнічаць у строгі спосаб.

Заявіў таксама, што калі ў мясцовай супольнасці «такія злачынцы карыстаюцца ананімнасцю», і нават проста падтрымкай, гэта абазначае, «што маем справу з чымсьці вельмі дрэнным, датычным у цэлым грамадства»:

— Польская дзяржава ў гэтым выпадку гатовая да вельмі многага. А на як вельмі, злачынцы хутка ў гэтым пераканаюцца.

Група пры ўправе ваяводы складаецца з прадстаўнікоў розных ведамстваў, у тым ліку паліцыі, пажарнай службы, Агенцтва ўнутранай бяспекі і пракуратуры. На першым пасяджэнні абмяркоўваліся аператыўныя планы, звязаныя з вызначэннем асоб вінаватых у падпале. Выказана перакананне, што неабходнае цеснае супрацоўніцтва з няўрадавымі арганізацыямі, якія супрацоўнічаюць з замежнікамі, у тым ліку бежанцамі, і апякуюцца замежнікамі, якія вучацца ў Беластоку. Ваявода прапанаваў пілотны праект па сацыяльнай актывізацыі жыхароў мікрараёнаў Лясная Даліна і Зялёныя Пагоркі. «Пазіцыя страху і пасіўнасць жыхароў мікрараёнаў у адносінах да ксенафобскіх і расісцкіх груп можа вынікаць з пачуцця ананімнасці і адсутнасці пачуцця еднасці з жыхарамі мікрараёнаў. Патрэбна будаванне пазітыўных адносін і сувязей у мясцовых супольнасцях. Інтэграванае і арганізаванае мясцовае грамадства лепш спраўляецца з вырашэннем мясцовых праблем, а таксама мае большае пачуццё адказнасці за грамадства і большае пачуццё бяспекі», — напісана ў паведамленні пасля першай нарады Групы.

У канцы мінулага тыдня ў справе інцыдэнтаў у Беластоку гаварыў прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск. Ён сказаў, што гэтае пытанне «трактуецца смяртэльна сур'ёзна». На яго думку, справа ў «выклікаючай трывогу сувязі крымінальнага свету з грамадскім светам»:

— Я скажу так мякка, як магу: неспадзявана глыбокае ўкараненне ў розных прафесійных колах падляшскіх скінхедаў. Такім чынам, гэтая праблема значна глыбейшая, чым проста выяўленне некалькіх індывідаў, якія ствараюць відавочную пагрозу. Справа мае сацыяльны аспект і ў пэўным сэнсе палітычны.

Як паведамляе Польскае прэсавае агенцтва, распытваны пра дэталі, прэм'ер патлумачыў, што гэта гаворка пра «выклікаючую трывогу сувязь крымінальнага свету з грамадскім светам»:

— Гэта інфармацыя з'яўляецца адносна новай і звязана з канкрэтным выпадкам, факты якога выйшлі на святло ў апошні час. Колькасць матэрыялаў і доследу, якія мы збіралі на працягу доўгага часу, дазваляюць сёння прымаць такія рашучыя дзеянні.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Калектыў народнага танца «Перапёлка» ўжо 20 гадоў дзейнічае пры Гайнаўскім доме культуры. На беларускіх мерапрыемствах дзяўчаты і хлопцы, апранутыя ў шыкарныя касцюмы, пашытыя паводле народных узораў, прэзентуюць беларускія народныя танцы. Але ў рэпертуары «Перапёлкі» многа польскіх народных танцаў, якія паказваюць у касцюмах з розных рэгіёнаў Польшчы, а таксама некалькі ўкраінскіх танцаў.**

# Ужо 20 гадоў з «Перапёлкай»

У час доўгага і займальнага юбілейнага канцэрта калектыву «Перапёлка», які 25 мая адбыўся ў ГДК, выступілі каля 90 яго танцораў з Гайнаўкі і наваколля. Запрэзентавалі яны спачатку польскія, а пасля беларускія народныя танцы і якраз беларускія танцы ў канцы канцэрта наймацней разагрэлі публіку. Маладасць танцораў, шыкарныя рознакаляровыя касцюмы, прыгожыя харэаграфічныя апрацоўкі і вельмі добрая танцавальная падрыхтоўка дзетак і моладзі — галоўныя козыры «Перапёлкі», якія належна ацаніла публіка. У канцэртнай зале, побач сямейнікаў і сяброў танцораў, сабраліся жыхары горада і наваколля, якія прыйшлі паглядзець народныя танцы. Сярод гасцей, якіх прывітаў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, былі бурмістр Гайнаўкі Юры Сірак і старшыня Рады горада Гайнаўкі Ала Грыц, адказны за адукацыю і культуру ў гайнаўскім старостве Уладзімір Петручук і старшыня ГП БГКТ і заадно ваяводскі радны Ян Сычэўскі.

— Калектыў народнага танца «Перапёлка» — гэта гордасць Гайнаўкі і наш амбасадар, які расслаўляе наш горад па Польшчы і за межамі нашай краіны, — скажа ў канцы мерапрыемства гайнаўскі бурмістр Юры Сірак і пахваліць апякунку калектыву Юсцінію Бірыцкую за шматгадовую працу з гуртом і падрыхтоўку танцораў да цудоўнага канцэрта. Разам са старшынёй Рады горада Алай Грыц уручыў ён калектыву ўзнагароду — шэсць тысяч злотых.

У час юбілейнага канцэрта запрэзентаваліся ўсе пяць танцавальных груп, якія дзейнічаюць пры ГДК. Зараз у калектыве «Перапёлка» займаецца ажно каля 120 чалавек з Гайнаўкі і навакольных мясцовасцей. Аднак за сцэнай і так была мітусня, калі танцоры ў спешцы пераапраналіся перад чарговымі выступамі. У тым часе танцавалі запрошаныя на юбілей члены калектыву «Падлясяцы» з Белай-Падляшскай.

Мае суразмоўцы, пачынаючы ад вучняў падставовых школ, а канчаючы на дарослых танцорах, былі згодны ў тым, што ў «Перапёлцы» можна цікава праводзіць час і займацца тым, што любяць — танцам. Гайнаўскія танцоры выступалі ў Беларусі, Расіі, Балгарыі, Эстоніі, Латвіі, Італіі, Швецыі, неўзабаве ізноў паедуць у Балгарыю. Хаця выступалі ў розных месцах у Польшчы, замежныя паездкі пакінулі асаблівыя ўражанні, засталіся ад іх міжнародныя знаёмствы.

— Народны танец — незвычайная і цікавая форма фізічнай і эмацыянальнай актыўнасці для дзетак і моладзі. Танец гэта таксама свядомае развіццё зацікаўленняў дзетак. Дае ён магчымасць прыемна правесці вольны час. Выступленні на мерапрыемствах вучаць грамадскай актыўнасці. Танцуючы, дзеткі пазбываюцца празмернай энергіі, вучацца правільна стаяць, хадзіць і паляпшаюць свой фізічны стан, — лічыць кіраўнік калектыву Юсцінія Бірыцкая.

Калі дзеткі вучацца народным танцам, вучацца таксама сваім традыцыям і сваёй гісторыі. Мне асабліва запамяталіся выступы «Перапёлкі» ў час «Вясельнай бяседы», якую летам ладзіць у гарадскім амфітэатры Гайнаўскі дом культуры, і ў час «Купалінкі», якую ў Ляневе ладзіць Гмінны асяродак культуры ў Чыжах. Хаця ў Гайнаўцы моладзь выступала на сцэне, а ў Ляневе — на траве, у абодвух месцах удала паказала свае танцавальныя ўмеласці. «Перапёлка» выступае таксама з народнымі танцамі ў час беларускіх фэстаў. У 2012 годзе беларускія народныя танцы запрэзентавала яна на фэстах у Сямятычах і Бельску-Падляшскім.

Канцэрт у Гайнаўскім доме культуры пачаўся з польскіх танцаў — «паланеза», «мазура» і інфармацыі аб танцорах. Калектыў народнага танца «Перапёлка» быў заснаваны пры Гайнаўскім доме культуры ў лістападзе 1993 года па ініцыятыве Анны Баран, якая займалася з танцорамі да 2006 года. Год часу з калектывам працавала Бажэна Жыжа, а з 2007 года калектывам кіруе ранейшая яго танцорка Юсцінія Бірыцкая. «Перапёлка» з поспехам прымала ўдзел у шматлікіх фальклорных танцавальных конкурсах у Польшчы, здабываючы пераможныя месцы, пачынаючы з самага лепшага першага месца. Удала прэзентавалася таксама ў шматлікіх спаборніцтвах і аглядах у замежжы. Ад многіх гадоў гайнаўскі калектыў народнага танца супрацоўнічае з Валянцінай Іскалівай, інструктарам народнага калектыву «Спадчына» з Пружан, распаложаных за ўсходняй мяжой, непадалёк ад Гайнаўкі. Абодва калектывы ў 2004 годзе прымалі ўдзел у праекце «Крыніцы сяброўства — пошукі супольных дарог у фальклоры і традыцыі», які рэалізаваў Гайнаўскі дом культуры і ад гэтага часу «Перапёлка» стала выязджаць у Беларусь, а «Спадчына» прыязджаць у Польшчу.

Пасля прэзентацыі чарговых польскіх танцаў з розных рэгіёнаў нашай краіны, калі выступілі таксама дарослыя танцоры, прыйшоў час на беларускія народныя танцы. Малодшая група «Перапёлкі» ўдала выступіла ва ўніверсальных касцюмах з «мікітай» і «полькай».

— Мы любім выступаць перад публікай і таму цікава нам сёння танцаваць, — заявілі Дыяна Юрчук, Наталля Кендысь, Гося Карпюк і Анета Салавянюк, якія займаюцца ў малодшай групе.

— Нам вельмі падабаюцца польскія і беларускія народныя танцы. Мы рады, што займаемся ў «Перапёлцы», — сказалі Каміля Раманюк і Патрыцыя Янушэвіч.

Найстарэйшая група калектыву цікава запрэзентавалася ў чырвоных касцюмах з «крутухай» і з «паштоўкай з Усходу».

— «Крутуха» гэта беларускі танец, а «паштоўка з Усходу» — украінскі. Чырвоныя касцюмы не беларускія і не ўкраінскія ўборы, толькі касцюмы стылізаваныя на ўсходні манер, — патлумачыла кіраўнік калектыву Юсцінія Бірыцкая.

Пасля найстарэйшая група танцавальнага гурту два разы пераапрануляся ў беларускія народныя ўборы, у якіх засталася да канца канцэрта.



Найстарэйшая група выступіла вельмі ўдала і ў беларускіх уборах засталася да канца канцэрта

Публіку моцна захапіла сярэдняя група з танцамі «лявоніха» і «мітусь», выступаючы ў прыгожай беларускай народнай вопратцы.

— Калі я ўбачыў «Перапёлку» з танцамі, захапіўся выступамі калектыву і рашыў стаць яго членам. Люблю танцаваць і таму ўжо многа гадоў займаюся ў калектыве, дзе міла праводжу час. Беларускія танцы — дынамічныя і вельмі прыгожыя, — заявіў Дам'ян Ставаж, які, апрануты ў прыгожы беларускі касцюм, чакаў свайго выступу.

— «Мітусь», «лявоніха» і «весялуха» — гэта дынамічныя і вельмі цікавыя беларускія танцы, з якімі мы сёння выступаем. У нашым калектыве завязалася моцнае сяброўства, пануе *файная* атмасфера, — сказала гайнаўская белгімназістка Анна Леанюк.

Іншыя гімназісткі Наталля Дзюбонас і Рэгіна Раманюк таксама звярнулі ўвагу на мілую атмасферу ў калектыве і на ахвярную працу з танцорамі іх апякункі Юсцініі Бірыцкай.



Публіку захапіла сярэдняя група калектыву з танцамі «лявоніха» і «мітусь», выступаючы ў прыгожай беларускай вопратцы



Малодшая група «Перапёлкі» цікава запрэзентавалася ва ўніверсальных касцюмах з «мікітай» і «полькай»

— Мы любім танцаваць. Добра, што выступаем таксама з беларускімі танцамі. Цяпер ужо чакаем летняй паездкі ў Балгарыю, — заявіў белгімназіст Барташ Плева.

«Лявоніху» танцавалі таксама іншыя вучні Гайнаўскай белгімназіі — Юліта Рушук, Моніка Сакалоўская, Моніка Максімюк і Міхал Нікалаюк. Ім не трэба будзе вучыцца гэтаму беларускаму народнаму танцу перад «стаднёўкай», калі паступяць у белліцэй.

Найстарэйшая група «Перапёлкі» захапіла сабраных танцам «рускі», а сярэдняя і найстарэйшая групы вельмі цікава запрэзентавалі танец «весялуха».

— «Весялуха», «крутуха» і «рускі танец» — вельмі цікавыя танцы, якія асабліва падабаюцца публіцы, — заявіла Магдалена Раманюк.

Мерапрыемства закончылася супольным «кракавякам», які станцавалі ўсе танцоры, застаючыся пасля на сцэне. Вялікая грамада з дзевяноста чалавек зрабіла на публіцы вялікае ўражанне. Да іх, па чарзе, з віншаваннямі і падарункамі падышлі дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, працаўнікі дома культуры і запрошаныя госці, а пасля — сямейнікі танцораў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Герб Польшчы — не арол!

Як можна вучыць у школах і ўсюды няпраўду? Аказваецца, што нават трэба, калі гэта для дабра Польшчы. Аб гэтым сведчыць, між іншым, акрэсленне яўнай ілжы Сянкевіча, якая пісалася „дзеля падмацавання сэрцаў палякаў”. Шкада толькі, што коштам суседзяў.

Ва ўсеагульнай энцыклапедыі выдавецтва ПВН напісана, што гербам ПНР з'яўляецца выява арла. Вядома, што гэта белахвост (Haliaeetus albicilla). У гэтай жа энцыклапедыі напісана, што гэтая птушка належыць да сямейства сакаліных. Але сокалы гэта Falconidae, а арлы — Aquila. Haliaeetus гэта арлан. Беларуская савецкая энцыклапедыя піша пра чатыры віды арланаў, з якіх адзін, згаданы Haliaeetus albicilla, гэта арлан-белахвост. Польскай назвы арлана не ведаю. Затое ведаю польскае слова Schinesghe, дзякуючы вядомаму польскаму мовазнаўцу Станіславу Роспанду.

**Аляксандр ДАБЧЫНСКІ**

## Калі едзе аўтобус?

У шматлікіх мясцовасцях Міхалоўскай і Нараўчанскай гмін няма раскладаў язды аўтобусаў ПКС. Хуліганы сарвалі іх у Новым Ляўкове і Нараўцы, а таксама ў іншых вёсках, між іншым, у Новай Волі, Баршчэве, Юшкавым Грудзе, Таніцы, Багнюках ды ў Бандарах. Усе гэтыя вёскі знаходзяцца на аўтобуснай лініі з Беластока ў Гайнаўку цераз Жэдню, Міхалова, Новае Ляўкова і Нараўку.

— Прадпрыемства ПКС не дбае пра тое, каб расклады былі на ўсіх аўтобусных прыпынках, — сказала мне жыхарка Нараўкі. — У Нараўцы няма яго ўжо другі месяц. Прыезджыя не ведаюць, калі едзе аўтобус. Часта заходзяць у спажывецкую краму спадарства Ярмоцікаў і пытаюцца. Даволі часта бачу як пасажыры затрымліваюць аўтобус за або перад прыпынкам. Вядома, і яны нервуюцца, і шафёры.

14 мая г.г. я чакаў аўтобуса ПКС у Гайнаўку на прыпынку ў Беластоку каля скрыжавання вуліц Браніцкага і Электрычнай. І тут ужо будзе месяц як няма раскладу язды аўтобусаў ПКС. Расклады язды прыватных аўтобусаў былі і ёсць. Прадпрыемства ПКС — па ўсім відаць — пра такую „дробязь” як расклады не клапоціцца. Чаму?

## Падзяка за рамонт маставой

Пасля зімы на кіламетровым адрэзку павятовай дарогі ад скрыжавання яе з ваяводскай у Новым Ляўкове (Нараўчанская гміна) да Старога Ляўкова на маставой утварыліся глыбокія і таму небяспечныя ўхабіны. Прыемна здзівіла мяне тое, што на другі дзень пасля праваслаўнага велікоднага свята „дзіркі” зніклі так, быццам іх не было. Маставую адрамантавала рабочая дарожная брыгада Праўлення павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы.

У Ляўкове асфальт паклалі на брук і таму маставая даволі трывалая. Яе зараз вельмі руйнуюць вялікія і цяжкія грузавікі, якія вязуць цэглу са староляўкоўскага керамічнага завода ў Беласток або ў Варшаву. Зараз маставая на вуліцы ў Новым Ляўкове роўная і без ухабін. Я, солтыс Новага Ляўкова, хацеў бы падзякаваць на старонках беларускага штотыднёвіка „Ніва” гайнаўскаму ППД, якім паспяхова кіруе інж. Крыстына Мішчук.

**(яц)**



# Пікнік з «беларусам»

Цікава з беларускім рэпертуарам запрэзентаваўся вакальны калектыў «Знічка», хаця і выступіў у меншым складзе

У пачатку гэтага года ў Гайнаўцы пачала дзейнічаць новая арганізацыя — аб'яднанне «Нашая школа», якую складаюць настаўнікі і бацькі Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Старшынёй аб'яднання быў выбраны настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі. Першым мерапрыемствам, якое гайнаўскае аб'яднанне наладзіла 24 мая, быў Пікнік з «беларусам», бо так гайнаўская моладзь называе белліцэй і белгімназію. Сабраныя маглі паглядзець мастацкую частку ў выкананні белліцэістаў і белгімназістаў. Можна было таксама з'есці каўбаску з грыля і памяцідь вартасныя прадметы нябачнымі знакамі, каб у выпадку крадзяжу можна было іх лягчэй знайсці. Усё мерапрыемства адбывалася на прышкольнай пляцоўцы, якая штодзень выконвае ролю аўтастаянкі. Арганізацыяй мерапрыемства займаліся настаўнікі, вучні і бацькі, а за ўсім наглядаў старшыня аб'яднання Янка Карчэўскі.

— Мы выступаем з прапановай да розных людзей і таму побач рэпертуару на беларускай мове, ёсць прапановы на польскай мове, а нават па-англійску, — заявіў настаўнік Янка Карчэўскі.

Перад сабранымі спачатку выступіў вакальна-інструментальны гайнаўскі гурт «Дэсант», у якім займаюцца вучні абодвух гайнаўскіх агульнаадукацыйных ліцэяў. Вакальны калектыў «Знічка» цікава запрэзентаваўся з беларускім рэпертуарам, хаця выступіў у меншым складзе. За яго выступленнем наглядала Бажэна Ляўчук, кіраўнік гурту.

— Мы першы раз на новым мерапрыемстве. Цікава нам тут запрэзентавацца. Мы, як «Знічка», выступаем з беларускім рэпертуарам — апрацаванымі народнымі і сучаснымі песнямі. Думаю, што моладзі і старэйшым павінна быць цікава паслухаць музыку і дэкламацыю. Сёння не сабралася многа людзей, бо ж гэта першы пікнік, які ладзіцца каля будынка нашай школы, а і надвор'е халаднаватае, — сказала Дамініка Юшкевіч.

Дамініка і Марлена Бяглюк спадзяюцца, што можа і «Знічка» атрымае нейкую дапамогу ад новага аб'яднання, напрыклад, на арганізацыю выездаў. Белгімназістка Магдалена Гаўрылюк выступіла з дэкламацыяй на беларускай і польскай мовах, з якой дабівалася поспехаў у час конкурсаў, а белліцэістка Ада Прусіноўская запрэзентавалася з расказам, з якім перамагла на «Беларускай гавэндзе — 2013». Абедзве дзяўчыны, так як і папярэднія выканаўцы, атрымалі гарачыя апладысменты ад публікі.

— Пікнік лічым цікавай ідэяй, у час якой можам запрэзентавацца перад іншай, чым толькі школьная, публікай і, што нам таксама вельмі важнае, перад сваёй дырэкцыяй, — гаварылі Магдалена Гаўрылюк і Ада Прусіноўская.

Калі вучні выступалі з мастацкай часткай, сабраныя на пікніку частаваліся каўбаскамі, якія на грылі рыхтавалі, між іншым, белліцэйскія настаўнікі. Малодшыя вучні, зацікаўленыя адукацыяй у школе з дадатковым навучаннем беларускай мовы, маглі ўзяць рэкламныя матэрыялы аб белліцэі і белгімназіі, пагартаць падручнікі па беларускай мове і беларускія кніжкі, якія былі раскладзены ў выдзеленым месцы. Паліцыянты мецілі веласіпеды і іншыя вартасныя прадметы ў спецыяльны непрыкметны спосаб, каб у выпадку крадзяжу лягчэй іх ідэнтыфікаваць.

— З прапановай заснаваць аб'яднанне «Нашая школа» выйшаў дырэктар Яўген Сачко. Ідэю падтрымалі настаўнікі і бацькі. Пачалі мы рэгістраваць новую арганізацыю ў канцы мінулага года, але толькі ў пачатку гэтага года аформілі ўсе справы. Мэтай нашага аб'яднання з'яўляецца падтрымка духовай і матэрыяльнай культуры беларусаў у Польшчы. Плануем дзейнічаць у галіне адукацыі, культуры, спорту і турызму, накіроўваючы свае прапановы перш за ўсё да грамадскасці нашага Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Аднак плануем праяўляць сваю актыўнасць, успамагаючы развіццё і інтэграцыю шырэйшай мясцовай грамадскасці, — сказаў настаўнік Янка Карчэўскі. — Плануем супрацоўнічаць з Рэспублікай Беларусь у галіне культуры, спорту і турызму. Калі будзе такая магчымасць, плануем купляць кніжкі і дапаможнікі для нашай школы і ладзіць пазаўрочныя заняткі.

Намеснікам старшыні новастворанай арганізацыі з'яўляецца маці вучня, Валянціна Галадык, а сакратаром управы — настаўніца англійскай мовы Эмілія Ляўчук, якая ў рамках аб'яднання спадзяецца на супрацоўніцтва белліцэйскай моладзі з моладдзю заходніх краін Еўропы.

— Аб'яднанне «Нашая школа» будзе дзейнічаць перш за ўсё ў карысць вучняў нашай школы, але будзе таксама займацца прапагандаваннем беларускай мовы і культуры, у адпаведнасці з характарам нашай школы. Мы, як школа, маем абмежаваную магчымасць здабываць сродкі на шырэйшую дзейнасць у карысць моладзі, а грамадскім арганізацыям лягчэй выступаць за сродкі, рэалізуючы розныя праекты, так як робіць гэта аб'яднанне АБ-БА з Беластока. Плануем супрацоўнічаць з моладдзю з Беларусі. Нашыя вучні ахвотна ездзяць на экскурсіі ў Мінск, якія ладзіць Янка Карчэўскі, — заявіў дырэктар Гайнаўскага белліцэя і белгімназіі Яўген Сачко, член аб'яднання.

«Нашая школа» пасля двухгадовай дзейнасці будзе мець магчымасць набыць статус некамерцыйнай арганізацыі і выступаць з прапановай, каб людзі добрай волі пералічвалі на яе рахунак адзін працэнт ад сваіх падаткаў. Гэта таксама можа паспрыяць дзейнасці ў карысць школьнай моладзі.

Мастацкую частку пікніка ўдала вялі настаўнікі Эмілія Ляўчук і Янка Карчэўскі, якія расказалі сабраным пра планаваную дзейнасць аб'яднання «Нашая школа».

— Зацікаўленні нашых вучняў — розныя, але не хапае сродкаў, каб усе іх разгарнуць. Лічым, што з дапамогай новага аб'яднання можна будзе арганізаваць дадатковыя заняткі ў школе, напрыклад, вучыць беларускім танцам, — дадала намеснік дырэктара Ніна Лукасік, таксама член аб'яднання.

Скарбнік управы аб'яднання настаўнік Чарак Шыкула дабавіў, што ў рамках дзейнасці новай арганізацыі прадбачваюцца спартыўныя спаборніцтвы, можа нават з удзелам моладзі з Беларусі.

— Я на пенсіі. У мяне ёсць час, каб дапамагчы школе. Калі я атрымала прапанову дзейнасці ў аб'яднанні «Нашая школа», то прыняла яе, бо і кантакт са школай будзе абноўлены. Можна ж будзе многа цікавага рабіць у карысць белліцэя. Хаця б летнікі ладзіць, а ў гэтым ліку і на Беларусі, — заявіла былая настаўніца беларускай мовы Вольга Сянкевіч.

Ужо ў час канікулаў аб'яднанне прадбачвае ладзіць летні адпачынак для школьнай моладзі на Падляшшы. Разважаецца арганізаванне вандровак па Белавежскай пушчы і яе наваколлі.



Зараз вядзецца набор вучняў у гімназічныя і звышгімназічныя школы. Гэта вельмі важная справа ў Гайнаўцы, дзе практычна з кожным годам меншае лік выпускнікоў падставовых школ і гімназій і паволі пачынае расці колькасць наймалодшых дзетак. Пікнік з «беларусам», гэта таксама адзін са спосабаў, каб шырэйшаму грамадству паказаць атмасферу ў школе і, між іншым, беларускую культуру, у якой выраслі шматлікія бацькі сённяшніх вучняў. Белгімназістка Караліна Мірак спявала па-беларуску, а пазней на польскай мове. Свае гімнастычныя ўмеласці паказала Магдалена Амілюсік. На англійскай мове, на заканчэнне, выступілі Анна Койла, Юліта Ваўрашук і Магдалена Дзямянюк. Пасля сабраныя яшчэ елі каўбаскі, слухаючы беларускую музыку з кампакт-дыскаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



# Джоан і Вячка Станкевічы зноў у хатцы на колах

— Захаплялыныя падарожжы ў далёкія краіны — мара майго дзяцінства, праведзенага на ціхаакіянскім паўночным захадзе ЗША — зрабіліся рэальнасцю, калі я выйшла замуж за Вячку Станкевіча і мы пад канец «халоднай вайны» перабраліся ў Еўропу. Небяспечныя прыгоды я апісала ў сваёй кнізе «Жыццё з водарам небяспекі: Еўрапейскія прыгоды падчас падзення камунізму», — сказала Джоан Айві Станкевіч. Кніга выйшла сёлета ў амерыканскім выдавецтве «Outskirts Press». Разам з Вячкам Станкевічам, колішнім дырэктарам Беларускай службы Радыё Свабода, прыехалі яны ў Еўропу, каб прэзентаваць кнігу. У ёй Джоан Станкевіч згадвае Еўропу часоў падзення «жалезнай заслоны» і першую паездку ў Беларусь у 1993 годзе.

Напрыканцы 1980-х і пачатку 1990-х гадоў Станкевічы вандравалі па Еўропе жылым фургонам. Цяпер яны паўтарылі шлях сваёй небяспечнай вандроўкі часу «халоднай вайны», ужо па іншай Еўропе. Успаміны спадарыні Джоан апісваюць бурлівы перыяд 1988-2001 гадоў, калі яна разам са сваім мужам Вячкам Станкевічам жыла ў Мюнхене, Празе і Флярэнцыі і пазнала: асочку камуністычнай тайнай паліцыяй падчас свайго першага падарожжа за «жалезную заслону», хаос і карупцыю посткамуністычнай Прагі, нацыянальны ўздым, непазбежныя расчараванні і небяспеку першых гадоў незалежнай Рэспублікі Беларусь. У кнізе ўспамінаў апісваюцца асабістыя ўражанні аўтаркі ад падзей, суправаджаючых падзенне камунізму ва Усходняй Еўропе. Джоан расказвае, як яны разам з мужам падпольна сустракаюцца з беларускімі дысідэнтамі з-за «жалезнай заслоны», удзельнічаюць у з'ездзе ў Мінску, дзе міністр замежных спраў раіць эмігрантам не патрабаваць занадта вялікіх змен. Джоан з Вячкам запланавалі цэлае падарожжа па Еўропе «ў хатцы на колах» з мэтай наведаць пару краін і пазнаёміць чытачоў з новай кнігай. Еўрапейскае турнэ Станкевічы пачалі з Прагі, дзе жылі, калі спадар Вячка кіраваў Беларускай службай Радыё Свабода.

Еўрапейскі тур кніжкі быў наступны: 9-12 мая Чэхія — Прага; 14-18 мая Польшча — Варшава, Беласток, Чаплінэк; 23-26 мая Італія — Флярэнцыя, Балонья; 27-28 мая Нямеччына — Мюнхен. Цягам трох наступных тыдняў на сваім аўтадоме яны наведалі Славаччыну, Вугоршчыну, Аўстрыю, Італію, і зноў Нямеччыну. Усюды яны начавалі на кемпінгах.

Вячка Станкевіч — сын беларускага мовазнаўцы, гісторыка, педагога, палітыка і грамадскага дзеяча Яна Станкевіча. Выехаў з Беларусі разам з бацькамі ў час Другой сусветнай вайны. З 1949 года жыве ў ЗША. З 1988 па 1998 год быў дырэктарам Беларускай службы Радыё Свабода. З 2007 г. ён старшыня Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага задзіночання, намеснік старшыні БНР Івонкі Сурвілы, актыўны дзеяч беларускай дыяспары.

Праца Вячкі на Радыё Свабода патрабавала ў Джоан пераезду з Нью-Джэрсі ў Мюнхен, а пасля ў Прагу.

— У 1960 годзе, калі я выходзіла замуж за Вячку, то паабяцала яму, што калі ў Беларусі адбудуцца перамены, то мы вернемся на радзіму мужа. Але ў 60-я лёгка было абяцаць. Рэальнасць аказалася іншай, — сказала Джоан. — У 1980-х мы былі сярэднестатыстычнай амерыканскай сям'ёй, жылі ў Нью-Джэрсі. Вячка працаваў інжынерам, я вяла свой бізнес, а дзеці рыхтаваліся да паступлення ва ўніверсітэт. Наша жыццё радыкальна змянілася, калі Вячка атрымаў пасаду на Радыё Свабода. Вячка прыехаў у Мюнхен, дзе тады месцілася сядзіба Радыё Свабода, у 1988 годзе. Усходняя Еўропа на той час усё яшчэ была камуністычнай. Калі мы ўпершыню перакрочылі мяжу «жалезнай заслоны», то за намі, натуральна, сачылі. У раёне Гданьска я ўпершыню пабачыла вадамёты, якімі разганялі «Салідарнасць». Затым мы наведалі Белавежскую пушчу, дзе адбываўся беларускі фестываль. Нас там праслухоўвала міліцыя і загадала здаць адбіткі пальцаў, таму што нашу «хатку на колах» хтосьці абрабаваў. Тады, напэўна, шмат людзей падумала, што мы з ЦРУ. Невядома, што яны збіраліся рабіць з нашымі адбіткамі пальцаў, таму мы хутка пакінулі гэтае месца.



Джоан Айві і Вячка Станкевічы ў „хатцы АБ-БЫ"

Як паведаміла Джоан Станкевіч, кнігу вельмі цёпла прыняла амерыканская публіка. Адна з галоўных мэт прэзэнтаванай кнігі — пашырэнне ведаў пра Беларусь у Амерыцы і на Захадзе. Кніга ўжо выклікала немалую зацікаўленасць Беларуссю сярод амерыканскіх чытачоў. Некаторыя амерыканцы, якія сапраўды няшмат ведаюць пра Усходнюю Еўропу, гаварылі, што цяпер пачалі больш цікавіцца і разумець тое, што адбываецца ў Беларусі. А гэта і была мэта кнігі. Чытачы кажуць, што гэта кніга, ад якой цяжка адарвацца.

Спадарыня Станкевіч распавяла гісторыю напісання кнігі, зачытала найцікавейшыя ўрыўкі і падзялілася ўражаннямі аб успрыняцці кнігі людзьмі з розных краін. На пытанне пра тое, ці не плануецца пераклад кнігі на беларускую ці іншыя мовы Вячка Станкевіч адказаў, што гэта добрая ідэя.

У сёлетнім плане маршруту спадарства Станкевічаў Беларусі не было. Але спадзяюцца сваім фургонам паўтарыць паездку ў Беларусь — «натуральна, праз Гародню, з бел-чырвона-белымі сцягамі на ўездзе», як тады, у 1993 годзе, калі ехалі яны на I З'езд беларусаў свету ў Мінск. У Мінску адбылося ў той год урачыстае святкаванне Дня Волі. Здавалася, перамены ў краіне будуць незваротныя. Джоан Станкевіч: «У 1993 г. у нас былі спадзяванні, што выбары 1994 года прынясуць перамены, але, на жаль, перамены адбыліся ў горшы бок».

Джоан і Вячка Станкевічы ў Беластоку 16 мая з прыемнасцю сустрэліся з моладдзю, на якую дзесяткі гадоў таму мелі вялікія спадзяванні.

Тая былая ўжо моладзь — сябры Зрутавання АБ-БА — прывялі сваіх дзяцей на сустрэчу са спадарствам Станкевічамі ў «Склеп з культурай» па вуліцы Чанстахоўскай, у Пачатковай школе № 4, дзе вывучаюцца беларуская мова і культура.

Тэкст і фота Марты БАРАВОЙ

## Справы для солтысаў

Жыхары вёсак Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) са сваімі патрабаваннямі звяртаюцца перш-наперш да солтысаў. Справы бываюць самыя розныя. Сяляне ідуць да солтыса, калі перастануць гарэць лямпачкі вулічнага электраасвятлення, калі перапоўненыя сметніцы, калі падае ціск вады ў водаправодзе, калі маставая ў „дзірках" як швейцарскі сыр і г.д. Бываюць справы іншага характару, як, напрыклад, чаму няма раскладу язды аўтобусаў ПКС, або калі пабудуюць прыстрэшак на аўтобусным прыпынку.

Жыхары Тарнопаля звярнуліся да солтыса, каб на тэрыторыі іх салэцтва адрамантавалі ўхабістыя гравейкі. У Міклашэве маюць дрэнную дарогу, па якой цяжка даехаць да сенажацяў. У Гушчэвіне пабудавалі каналізацыю (паклалі каналізацыйныя трубы), але пры ўсім гэтым зруйнавалі дарогу і трэба яе добраўпарадкаваць. Жыхары Плянты хочуць, каб адрамантавалі ім гравейку і ссеклі кусты, якія выраслі на пляцоўцы пры тамашняй святліцы. У Старым Масеве дамагаюцца, каб аднавіць равы ад Масева ў напрамку Замоша. У Новым Масеве ёсць дрэнная дарога ў Замоша, якая патрабуе неадкладнага рамонту і такая самая дарога за стадоламі. Солтыс Падляўкоўя мае заняцца ўсталяваннем дошак аб'яў у Сушчым Барку і ў Бярнадскім Мосце.

Укладкі тратуараў сталі дамагацца ў войта ад імя жыхароў солтысы Новага Ляўкова (на другім баку вуліцы), Семяноўкі (на вуліцы Школьнай), Лешукоў і Ахрымоў. У Ахрымах неабходны дарожны ўказальнік з надпісам „Капітаншчына" ў канцы вёскі. (Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы даслала адказ, што паставіць яго сёлета). Спадарыня солтыс Лешукоў будзе хадайнічаць, каб у Лешуках пабудавалі прыстрэшак на прыпынку аўтобусаў ПКС і паветку на дровы пры святліцы ў Міхнаўцы.

## Дэмаграфія — 2012 год

У 2012 годзе ў Заблудаўскай гміне пражывалі 8 962 асобы ў 55 населеных пунктах. Найбольш у Заблудаве — 2 423 чалавекі.

У Гарадоцкай гміне пражывала 5 666 асоб у 45 вёсках і вёсачках (у Гарадку найбольш — 2 594 чалавекі).

Супрасльская гміна налічвала 13 300 жыхароў у 31 населеным пункце. У Супраслі сваё месца жыхарства мелі 4 534 асобы.

Харашчанская гміна налічвала 37 мясцовасцей, у якіх пражывала 13 846 чалавек. Найбольш населенай была Харошча — 5 962 чалавекі.

У Міхалоўскай гміне пражывала 7 088 чалавек, у самым Міхалове — 3 257.

У Васількаўскай гміне — семнаццаць мясцовасцей, у якіх пражывала 14 357 чалавек. Найбольш жыхароў налічваў горад Васількаў — 9 911 чалавек.

У Гайнаўскай гміне ў 27 мясцовасцях пражывала 4 181 асоба.

У Нараўчанскай гміне было 3 905 жыхароў у 42 мясцовасцях. Нараўка налічвала 919 чалавек.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Бельская „тройка” ў гонар Яраслава Кастыцэвіча







Фота Л. ГАЙКО

Бельск-Падляшскі вядомы, між іншым, дзякуючы „тройцы”. Комплекс школ на працягу многіх гадоў выхаваў шмат выпускнікоў, якія не забываюць аб сваіх каранях, паходжанні і мове. На бясспрэчную веліч „тройкі” паўплывала шмат харызматычных настаўнікаў і беларускіх дзеячаў. Адным з іх быў Яраслаў Кастыцэвіч. Гэты чалавек цэлае сваё жыццё прысвяціў справе беларускага школьніцтва на Бельшчыне. Якраз дзякуючы намаганням Кастыцэвіча пасля Другой сусветнай вайны паўстала школа з навучаннем беларускай мовы. Можна сказаць, што бельская „тройка”, якую ведаем, развіваецца і існуе дзякуючы гэтаму чалавеку. Таму комплексу школ прысвоена імя Яраслава Кастыцэвіча. Цяпер штогод праходзіць шумнае свята, прысвечанае памяці патрона школы.

Святкаванні ў бельскай „тройцы” пачаліся з багаслужбы ў школьнай капліцы св. Мікалая. Травеньскае цёплае надвор’е паспрыяла шматлікаму ўдзелу вернікаў. Вакол невялікай каплічкі сабраліся вучні з бацькамі і настаўнікі. Пасля багаслужбы пачалася афіцыйная частка святкавання. Сабраныя мелі магчымасць пачуць мясцовыя песні ў выкананні наймалодшых дзяўчат з гурту „Жэмэрва”. Тыя, хто ўбачыў на сцэне толькі дробных дзяўчынак, напэўна здзівіліся іх моцным галасам.

Вялікую цікавасць сабраных выклікаў паказ моды. Аднак не быў гэта такі паказ, якія можна ўбачыць па тэлебачанні ці ў шматлікіх каляровых часопісах. Вопратка, прэзентаваная вучнямі, магла б у іншых кутках свету лічыцца авангарднай. Ільняныя кашулі, каляровыя паясы, доўгія суконныя спадніцы — гэта штодзённае адзенне даўнейшых сялян Бельшчыны. Можна было паглядзець як выглядаў убор малога дзіцяці, спелай жанчыны ці маладога хлопца. Варта дадаць, што натуршчыкі вельмі добра адчувалі сябе на подыуме. Прычынай гэтаму, магчыма, былі строі, у якіх маладыя беларусы камфортна сябе адчувалі.

У час свята патрона школы ў бельскай „тройцы” прайшоў дзень спорту. Вялікія эмоцыі гарантавалі шматлікія турніры і конкурсы, а сярод іх — конкурс ведаў аб Ярославе Кастыцэвічу. Каманды з розных класаў адказвалі на пытанні, падрыхтаваныя настаўніцай беларускай мовы Валянцінай Бабулевіч. Вучням пытанні не прычынялі большых праблем. Варта згадаць, што моладзь з бельскай „тройкі” цікавіцца біяграфіяй свайго славутага земляка. Інфармацыю аб ім шукае, між іншым, ва ўспамінах сёння ўжо пажылых ягоных вучняў.

Свята школы ў бельскай „тройцы” напамінае асобу Ярослава Кастыцэвіча і, перш за ўсё, усведамляе моладзі, што жылі ў нас людзі, якія змянілі мясцовую рэчаіснасць на лепшае, а гэтым самым паказвае, што і яны здольныя гэта зрабіць.

**Уршуля ШУБЗДА**

## Вершы Віктара Шведа

### У вёсцы рамантуюць коней

У бабулі быў госцем
Гарадскі ўнук Лёня
Разказаў, як у вёсцы
Рамонт робяць коням.

— Каля кузні там бачыў
Каваля я старога,
Які спраўна, з удачай
Падбіваў каню ногі.

### З падарожжа

У хаце малога Федзю
Пацешыла матуля.
Сёння мы паедзем
У вёску да бабулі.

У аўтобусе строга
Запытаўся Федзя:
— Чаму людзей так многа
Да бабулі едзе?

## Загадка (№ 23)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 9 чэрвеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*Між лугоў, лясоў удалеч*
*Стужка сіняя віецца.*
*І агонь яе не спаліць,*
*І ніколі не парвецца.*

**Міхась Пазнякоў**

Адказ на загадку № 20-13: Дзяцел. Узнагароды — каляровыя алоўкі — выйгралі **Каміля Навіцкая** з Арэшкава і **Сандра Пятроўская** з Орлі. Віншуем!





# Арэшкава ў „Зорцы”

Перад тым як нашыя госцейкі завіталі ў „Ніву”, яны паглядзелі ў Беластоцкім лялечным тэатры спектакль „Шпак Фрыдэрык” аўтарства Рудольфа Герфуртнера. Тэатр, як сказалі дзеці, ім вельмі спадабаўся. Таксама як сама экскурсія ў Беласток, так і візіт у іх любімай рэдакцыі — „Зорцы”. Усе дзеці з Непублічнай школы ў Арэшкаве — нашы чытачы. Здаецца, яны не абмінулі ні аднаго нашага конкурсу. Іх ангажаванасць і актыўнасць, проста, фантастычныя. Вядома, дзякуючы вялікай дапамозе настаўніц Ірыны Герасімюк і Анны Франкоўскай. І вось, 28 мая г.г. госцікі з Арэшкава на ўласныя вочы пабачылі як нараджаецца „Зорка”, паслухалі вершаў Міры Лукшы (пра жывінкі з глыбінкі), пазнаёміліся з журналістамі і іх працай. На развітанне заспявалі нам песню „Шэры кот”. Менавіта з гэтай песенькай мелі яны выступаць на Аглядзе беларускай песні...

Экскурсія ў Беласток завяршылася моцным акцэнтам. На канец дзеці наведалі парк у Юроўцах, каб паглядзець штучных дыназаўраў.

**Фота Ганны Кандрацюк**

# Гульня ў тэатр у Гарадку

Адна з апошніх рэпетыцый перад святочным выступленнем на Сямейным фэсце ў Гарадку 25 мая — „сямейнай маёўцы”. У святліцы школы ў Гарадку сабралася малодшая тэатральная група, якую вядзе на тэатральных майстар-класах спадарыня Хрысціна Гегель (спадарыня Анна Грыцук — старэйшую, гімназічную). Тэатр супрацоўнічае са спадарыняй Славай Іжык, якая вядзе вялікі агратурыстычны асяродак у Разлогах. Яна апрацоўвае розныя праекты з еўрасаюзнай падтрымкай. Арганізуе, між іншым, згаданыя тэатральныя майстар-класы, былі і танцавальныя, плануюцца фільмавыя. У Разлогах кожная група разам з настаўнікамі рыхтавалася аж па тры дні.

„І раз, і два, і тры, няхай тэатр зайграе ў тваёй душы!” — пляскаюць і спяваюць маладыя акцёры. Злева: Вікторыя Каранкевіч, Наталля Буцько, Пятрок Грыка, Норберт Гутоўскі, Паўлінка Бількевіч, Вераніка Врацэнская, Габрыся Баран і Каспер Кубяк.

(лук)



**Патрыцыя КАРЛАЎ**
**(гімназія ў Гарадку)**

## Любімая зямля

Мая любімая зямля
Маё месца нараджэння
Тут я вырасла
Тут жыву
І жыць буду

Я хачу жыць толькі тут
Дзе ў свеце
Яркія патокі
Сасновыя лясы
Медныя палі
Сочныя лугі
Дзе ў свеце
Дзе

# Польска-беларуская крыжаванка № 23

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 19:

Шпінат, сага, пава, згода, сіла, малады, які, лівень, травень, Ала, задача, краты, арган. Сяўба, шпінат, палітык, іва, на, лаза, віват, веды, змена, Ганьча, соль, ар, Ада, гадалка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Адам Харкевіч**, **Магда Пташынская** з Нараўкі, **Моніка Зырчук-Жар**, **Інэз Дмітрук** з Орлі, **Юлія Скарбіловіч**, **Магдалена Хвашчэўская**, **Анджэліка і Адам Сцепанюкі** з Бельска-Падляшскага, **Сузанна Мішчук**, **Вольга Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!





„Пускайце дзяцей, не перашкаджайце ім прыходзіць да Мяне, бо яны маюць Нябеснае Царства" (Мф; 19, 14); „Зарынка" ў белавежскім касцёле

# На памежжы

Не думаў пісаць пра фестываль царкоўнай музыкі, аднак — даводзіцца. Не па сваёй волі, а, так сказаць, па волі лёсу. Два гады таму быў тады пазваніў мне сам дырэктар фестывалю Мікола Бушко, прапануючы быць мне правадніком аднаго з хароў. А сёлета з такой жа прапановай звярнулася да мяне Ірэна Парфянюк.

Нашы сродкі масавай інфармацыі асацыююць гэтую падзею з Міколам Бушко — ініцыятарам мерапрыемства, якое — у культурнай сферы і ў агульным плане — здаўна і паціху выконвае тую ролю, якой зараз мае займацца гучны палітычны праект пад клічкай Усходняга партнёрства. Крышку баюся гэта пісаць, бо калі даведаюцца пра маё меркаванне нашы палітычныя тузы, тады ў адносінах да спадара Міколы могуць выканаць такі прыём, які ў хакеі мае клічку *body check*, а які ў фестывальным маштабе выканаў быў некалькі гадоў таму мітрапаліт Сава, стаўшы нашым царкоўным першастаяцелем. Дарэчы, такі прыём па-папугайску прымянілі і мясцовыя палітычныя фоскі... Ды і мне не хочацца аставацца збоку...

У краінах трапічнага і субтрапічнага пояса Зямлі, напрыклад у Афрыцы, ролю палітычных першастаяцеляў амаль безвыключна выконваюць мужчыны. Жанчыны ж там, як гэта паказваюць шматлікія ілюстрацыі тамашняга будзённага жыцця, усе ношы таго жыцця стройненька носяць на сваіх галовах. Падобна ж маецца справа і з гайнаўскім фестывалем, дзе святочныя функцыі выконвае спадар Мікола, а ўсю будзённую ношу вельмі стройна і вельмі спраўна носіць спадарыня Ірэна Парфянюк.

Спадарыня Ірэна даручыла мне апеку над дзіцяча-маладзевым хорам з Тарнопаля. Кароткі курс геаграфіі: Тарнопаль з'яўляецца цэнтрам Падолля, якое ахоплівае і Пачаеў — мэту найчасцейшых замежных пілігрымак нашых тутэйшых вернікаў...

Калі я са сваімі маладымі тарнопальскімі падапечнымі з'явіўся ў падбелавежскі паказны запаведнік зуброў, рэгістратар ва ўваходзе ўжо быў напагатове і з радасцю паказаў мне на карце мясцовасць з такой жа назвай, якая знаходзіцца *в подворьи* Белавежскай пушчы, у Нараўчанскай гміне. Для мяне не было гэта сюрпрызам, бо ж яшчэ да вайны Тарнопаль быў тытульнай мясцовасцю тадышняй гміны, якой бюро было ў маім Ляўкове. „Слоўнік Каралеўства Польскага" векам назад пісаў: „Lewkowo, wieś i dobra nad Narewką, pow. wołkowyski, gm. Tarnopol, 63 wiorsty od Wołkowyska. Wieś ma 22 domy, 221 mieszkańców, cerkiew, zarząd gminny, 259 dziesięcin włościańskich i 59 cerkiewnych; dobra Kamieńskich, 1348 dziesięcin. Młyn, folwark. Parafia prawosławna dekanatu wołkowyskiego, 1537 dusz".

Прыналежнасць Ляўкова да адміністрацыйных структур з цэнтрам у Ваўкавыску сёння гучыць даволі дзіўна. Але да вайны і раней былі яшчэ і іншыя дзівосы: найбліжэйшыя ад Ляўкова мясцовасці, Ахрымы і Падляўкоўе, былі ў яшчэ іншых паветах... „Слоўнік": „Ochrymy, wieś i uroczysko, pow. bielski guberni grodzieńskiej, gm. Łosinka, 134 dziesięciny". І далей: „Podlewkowie, uroczysko, pow. prużański, gm. Masiewo, o 70 wiorst od Prużany". Значыць, пры ўпадзенні ў Нараўку рачулкі Яблынёўкі, якая раздзяляе Ахрымы ад Падляўкоўе, сходзіліся межы трох гмін: Масеўскай, Ласінскай і Тарнопальскай; межы трох паветаў: Пружанскага, Бельскага і Ваўкавыскага; межы колішніх трох ваяводстваў: Берасцейскага, Падляшскага і Трокскага. Вось якое тут было памежжа!!! А я ж калісь, абуты ў валёначкі, ганяючы з равеснікамі абломкамі галля нейкі кусок каменя па замерзлай пойме Яблынёўкі, нават не ўяўляў, што адна „брамка" стаяла на колішняй Берасцейшчыне, другая на Падляшшы, а „хакеісты" былі з Трокскай зямлі...

„Слоўнік Каралеўства Польскага" падае звесткі пра тысячы мясцовасцей даўняй Рэчы Паспалітай. Некаторыя тапонімы сустракаюцца там і па некалькі дзесяткаў разоў, а вось тапонім Тарнопаль выступае толькі два разы. Першы з іх на абмежках гістарычнай Чорнай Русі: „Tarnopol, dobra (nie wieś), pow. wołkowyski, własność Bielińskich, z folwarkiem Łuka i uroczyskiem Przewóz, 1647 dziesięcin (812 lasu). Gmina obejmuje 32 miejscowości, 258 domów włościańskich (56 innych), 2249 mieszkańców włościan, uwłaszczonych na 4966 dziesięcinach. Zarząd gminy we wsi Lewkowo".

Столькі пра тутэйшы, наш Тарнопаль. Пра другі Тарнопаль, той з Чырвонай Русі, які на час царкоўнага фестывалю таксама стаў „маім", „Слоўнік" падае некалькі старонак звестак — замнога для іхняга ўсіх тут прыводу. Некалькі вытрымак: „Swój początek zawdzięcza miasto Janowi Tarnowskiemu, kasztelanowi krakowskiemu, hetmanowi wielkiemu koronnemu. Chcąc ubezpieczyć Podole od napadów Tatarów i Wołoszy, postarał się hetman u Zygmunta I w r. 1540 o przywilej na założenie miasta nad Seretem, w ziemi halickiej. Syn hetmana Jan Krzysztof Tarnowski wzmocnił rozpoczęte przez ojca warownie. Po jego śmierci ogromny majątek przeszedł w ręce Ostrogskich, gdyż córka hetmana Zofia wyszła za ks. Konstantego z Ostroga". Князь Канстанцін Астрожскі, уласнік Тарнопаля і 58 іншых гарадоў, здаецца быць крышку нам знаёмым, найпершым ад нашых тутэйшых вернікаў кандыдатам у лік святых...

У беларускай тапанімії беражна шануюцца далёкія замежныя назвы, напрыклад Montevideo называецца Мантэвідэо, а не *Гаравід*. Затое менш беражна блізкія, напрыклад *Тэрнопіль* выступае пад назвай Цярнопаль. Гэтая назва была ўведзена 9 жніўня 1944 года спецыяльнай пастановай Вярхоўнага Савета СССР; раней горад называўся так, як вышэй называў яго я. Гарадскі партал: „Заснування міст в Речі Посполитій відбувалося на основі королівських привілеїв. Досить часто засновник давав місту своє ім'я. Тернопіль був заснований магнатом та видатним діячем Речі Посполитої Яном Тарновським, відповідно назва міста походить від прізвища магнатів Тарновських і грецького скороченого закінчення -поль від поліс „місто". Інше тлумачення назви є більш народним. Нібито місцевість, де було засноване місто, називалася 'Тарнопілля'. Ця назва походить від польського слова tarnina «тер(е)н»". Вось, дзеля выдварэння панскага і польскага з тапаніміі, назва горада атрымала ад савецкіх вярхоў новы корань — народны. І магчыма, што цалкам слушна, бо ж у Ляўкове мясцовасць, што між Лукой і Семяноўкай, называлі „Тарнаполе"...

Харавая дзіцячая капэла „Зарынка" (укр. „Зоринка") з Тарнопаля заняла першае месца ў сваёй катэгорыі. У яе актыве шматлікія прэстыжныя міжнародныя прэміі. Што выступала яна на многіх конкурсах — гэта нармальна. Але і афармляла яна музычна важныя ўрачыстасці, напрыклад прывітанне канстанцінопальскага патрыярха Варфаламея ў час яго візіту ў Кіеў у 2008 годзе. Давала яна прэстыжныя канцэрты і ў замежжы, м.інш. у венгерскім парламенце ці ў кракаўскім Вавелі. Вакальнае майстэрства тарнопальскіх дзяцей высока цэняць прызнаныя музычныя аўтарытэты.

Уражваюць таксама бытавыя паводзіны яе маладых вакалістаў. У час пабыўкі ў нас вялі яны сябе вельмі акуратна і ветліва — гэта не толькі мая ацэнка. І, найважнейшае, усе яны размаўлялі выключна на сваёй роднай мове, на мове сваіх продкаў, на дзяржаўнай мове Украіны. Прыехаўшы ў Беласток, яны адразу, выйшаўшы з аўтобуса, сталі ў харавы строй і праспявалі „Отче наш" па-ўкраінску, ускосна даказваючы, што іхнія пастыры адораны сапраўдным дарам Святога Духа...

„Зарынка" была заснавана ў 1980 годзе Ізыдорам Доскачам як харавы гурток гарадскога Палаца піянераў. У 1996 годзе пераўтвараецца ў дзіцячую харавую школу, з 2002 года — народная харавая капэла. Усе гэтыя гады — трэць стагоддзя — яе працай кіруе спадар Доскач, а з 1994 года далучаецца да яго Анджэла Доскач. У рэпертуары капэлы духоўная і свецкая харавая класіка, творы ўкраінскага народнага вакальнага мастацтва, песні іншых народаў.

Капэла на Беласточчыне выступіла тры разы: у час фестывальнага конкурсу, у рамках гала-канцэрта і ў час Свята сакральнай музыкі, якое было зладжана ў Белавежы, у тамашнім касцёле. У белавежскім касцёле канцэртавалі таксама іншыя хары з абшару візантыйскай культурнай спадчыны.

Можа хто здзівіцца, чаму перад царкоўнай музыкай закрыты ў нас цэрквы і яна карыстаецца вялікадушнасцю касцельных душпастыраў. Касцёл выступае тут у ролі евангельскага Добрага Самараніна... Памежжа, гэта не толькі клопаты — гэта таксама магчымасць духоўнага ўзбагачэння. Памежжа дае таксама магчымасць выбару...

У нас адбываецца канфесійная дыфузія. Зараз працэс даволі памяркоўны, але ж звыш ста гадоў таму меў ён лавінны характар. І добра вядома, у якім напрамку. Прыхільнікі візантыйскага абраду здаюцца быць занепакоенымі напрамкам вектара гэтай дыфузіі, але ўсур'ёз не ўсе гэтым хвалююцца. Я крыху месца прысвяціў тапаніміі, падказваючы, што назвы Тарнопаль і Цярнопаль блізкія ў марфалагічным ракурсе. Падобна здаюцца быць блізкімі імёны Саўл (той з Тарса, яшчэ малады) і Сава, а іх носьбіты — у духовым...

Усявышні стварыў усіх з аднае гліны, так пастыраў, як і авечак. І даў Дзесятую запаведзь. Але як жа адмовіцца ад спакушальных марнасцей гэтага свету, у тым ліку і ўладных, калі ў лепшым верагодна іх не будзе?.. А Малітва Гасподняя — *і не введи нас у спокусу, але визволи нас від лукавого* — найгорш хіба шанаваная ў нашых фарысейскіх вярхах.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Галоўная каштоўнасць беларусаў — незалежнасць

Інтэрв'ю з **Алесем Анціпенкам**, філосафам, кіраўнікам «Беларускага калегіюма» ў Мінску, удзельнікам сімпозіума «Усходняе партнёрства як культурны праект» у Краснагрудзе

**Мацей Халадоўскі**: — На Вашу думку, незалежнасць у творчым сэнсе для беларускага мастака гэта?..

Алесь Анціпенка: — Гэта залежыць ад таго, у якой краіне вы жывяце... Калі вы жывяце ў Беларусі, то быць незалежным у творчым сэнсе часам абазначае быць пазбаўленым працы, калі вы гэтую працу маеце. Калі вы незалежны творца, то хутчэй за ўсё вы не будзеце прысутнічаць у дзяржаўным радыё і тэлебачанні. Гэта абазначае, што вас занясуць у чорны спіс і вас не будзе ў той культурніцкай, прасторы якая называецца беларуская. Гэта проста.

**— А для беларускага мастака ў сэнсе мастацкай незалежнасці?**

Гэта заўсёды спроба выйсці за тыя межы, якія для вас хтосьці вызначыў, альбо выйсці за тыя межы, якія вы самі для сябе стварылі. Творчасць і свабода гэта заўсёды пашырэнне межаў. І тут ужо няважна, у якім палітычным кантэксце вы існуеце. Проста ў адным грамадстве вас могуць пакараць, а ў іншым не. Адрозненне толькі ў гэтым.

**— У чым заключаецца праблема пабудовы грамадскай ментальнасці праз культуру? Якой ментальнасці?**

— Ёсць два розныя віды каштоўнасцей. Адзін — універсальныя каштоўнасці, якія нас усіх лучаць і нівелююць адрозненні паміж вамі як прадстаўніком адной культуры і мной як прадстаўніком іншай культуры. І ёсць вартасці, якія падкрэсліваюць маю тоеснасць, маю адрознасць, маю прыналежнасць да нейкай культуры. На гэтых двух відах каштоўнасцей якраз і базуецца ментальнасць.

Што адбывалася альбо што адбылося ў постсавецкіх краінах? Праз ідэалагічную індактрынацыю (тое было і ў Польшчы, але з меншым поспехам чым у нас) людзі аказаліся альбо адарванымі ад сваіх культурных вытокаў, альбо здагматызаванымі ў сваім мысленні. У выніку, замясціўшы мысленне ідэалогіяй, чалавек аказваецца ўнутрана несвабодным, ён пастаянна займаецца самацэнзурай. Чалавек без каштоўнасцей — гэта чалавек з разбуранай сістэмай каардынат. Ім можна лёгка маніпуляваць.

Ад усяго гэтага якраз і неабходна пазбавіцца. Як і якім чынам? Праз культываванне ўнутры кожнага з нас універсальных каштоўнасцей, а таксама тых, якія выбудаваныя вашай ці маёй культурай цягам стагоддзяў.

**— Калі ласка, растлумачце, што Вы мелі на ўвазе сказаўшы ў Краснагрудзе, што «культура гэта каштоўнасці, а мастацтва гэта суб'ектыўнасць».**

— Гэта не надта складана. Да прыкладу, ніхто з нас не хоча, каб ён ці яна сталіся аб'ектам гвалту. Усе мы хочам, каб да нас ставіліся сур'ёзна. І гэта ўніверсальная каштоўнасць. І такіх каштоўнасцей шмат. Тут я мушу спаслацца на вядомага філосафа Альберта Швейцэра, які сказаў што сутнасць культуры складае этыка. А этыка — якраз тое, што робіць каштоўнасці чымсьці практычным. То-бок, гэта вы ў сваіх паводзінах выбіраеце нейкія вартасці. Пра гэта ідзе ў культуры. Культура гэта перш за ўсё будаванне ўніверсальнага чалавека. Зразумела, да той ступені, у якой мы можам быць універсальнымі.

Што тычыцца мастацтва, то яно мае дачыненне да суб'ектыўнасці, да таго, што робіць мяне і вас непадобнымі чалавечымі істотамі. У адрозненне ад каштоўнасцей суб'ектыўнасць гэта тое, што больш дынамічнае і зменлівае, скіраванае ў будучыню. Як казалі экзістэнцыялісты, чалавек гэта заўсёды незавершаны праект. Чалавек гэта заўсёды праект закінуты ў будучыню. З таго мы самі сябе ніколі да канца не ведаем, мы канструюем сябе. І вось гэтую невядомую частку чалавека найбольш эфектыўна



Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

маем мажлівасць уведаць праз мастацтва. Таму што мастацтва ў значнай ступені інтуітыўнае. Яно дае нам мажлівасць перакрочыць межы нашага стандартнага бачання самых сябе. Гэта шлях у будучыню, да таго, што чалавек яшчэ не сказаў пра самога сябе. Гэта тое, што чалавек яшчэ не зразумеў, не адкрыў. У нас ёсць задача адкрываць самых сябе. І тое чалавек робіць праз мастацтва.

**— Ці гэта абазначае, што чалавек мастацтва з'яўляецца эгаістам, а чалавек культуры — альтруістам?**

— Не, не заўсёды так. Крыху схематычна, але я сказаў бы так. Калі чалавек культуры гэта той, хто імкнецца да дасканаласці і ўніверсальнасці, то чалавек мастацтва — гэта той, хто хоча адрозніць сябе ад таго, кім ён не ёсць. І ў мастацтве гэта заўсёды прысутнае. Гэта дзве розныя прыроды, якія сутыкаюцца ў чалавеку. Тая прырода, якая ёсць у нашай падсвядомасці, той айсберг, як Фрэйд казаў, які нам не дае спакою, альбо, інакш кажучы, гэта акіян эмоцый, які ёсць унутры нас, і якія кіруюць намі звычайна ў большай ступені чым мы прызвычаіліся думаць. Але чалавек мае мажлівасць узняцца над самім сабой, зазірнуць за далягляд. І гэта якраз дадзена нам праз мастацтва. То-бок, суб'ектыўнасць гэта заўсёды новая канфігурацыя чалавека. Гэта заўсёды наноў усталяваныя стасункі паміж нашымі эмоцыямі, падсвядомасцю і розумам.

**— Якія асноўныя, агульныя культурныя каштоўнасці беларусаў?**

— Перш за ўсё, гэта, канешне, незалежнасць. Не толькі палітычная, не трэба ўсё рэдукаваць да палітыкі. Не толькі эканамічная. Незалежнасць — гэта мажлівасць самаразвіцця любой нацыі як супольнасці свабодных людзей. Гэта незалежнасць здзейсніць тое, што пры іншых варунках мы ўсе разам ніколі не здзейснілі б. Калі б не існавала польская мова, то не было б Сянкевіча. Калі б не было беларускай мовы, то не было б Купалы ці Коласа... Мы арыентаваны на самараскрыццё, толькі ўжо не як індывідуумаў, а як пэўнай супольнасці людзей у гістарычным часе.

**— А супольныя культурныя каштоўнасці беларусаў і задзіночанай еўрапейскай супольнасці?**

— Гэта важнае пытанне, таму што насамрэч акрамя таго, што ёсць нейкія рэгіянальныя ці нацыянальныя культурныя каштоўнасці, безумоўна, ёсць каштоўнасці еўрапейскія. Канешне, у гэтым сэнсе для беларусаў, французаў і для палякаў напоўна гэтымі супольнымі каштоўнасцямі з'яўляецца тое, што складае Еўропа. А менавіта: рацыяналізм або крытычнае мысленне, самакіраванне, магдэбургскае права, хрысціянства, ідэя дыялогу, ідэя правоў чалавека — гэта ўжо дваццатае стагоддзе... То-бок, насамрэч гаворка ідзе пра вельмі шырокую ментальную структуру, якая называецца Еўропай. Таму што Еўропа гэта не тэрыторыя. Еўропа гэта пэўная ментальная структура, якую мы ўсе ў вялікай ступені падзяляем — і палякі, і французы. Калі мы хочам быць еўрапейцамі, мусім імкнуцца да таго, каб падзяляць гэтую структуру як агульную. Гэта тое, што нас адрознівае ад якутаў, японцаў, індусаў і кітайцаў....

**—... ад расіян?**

— Тут вельмі цікавая рэч. Перш чым адказаць на гэтае пытанне, я раскажу кароткую гісторыю. Некалькі тыдняў таму мне спатрэбілася мапа Нямеччыны. У інтэрнэце знайшоў неабходную мапу, а з правага боку там аказалася мапа Еўропы. Я не звярнуў бы ўвагі на мапу Еўропы, але раптам падумаў: цікава, а дзе зараз праходзяць межы Еўропы. Я ўбачыў, што Еўропа выдзелена больш інтэнсіўным колерам, а яе фарпостамі з'яўляюцца балцкія краіны, Беларусь і Украіна. Я аж не паверыў. Шарль дэ Голь казаў, што Еўропа — да Уральскіх гор. Там, дзе пачынаецца Расія, вялікімі літарамі пазначана: Азія. А ўнізе дробнымі напісана: «еўрапейская Расія». Гэта значыць, што еўрапейскасць Расіі, на думку аўтараў мапы — умоўная. Гэта не еўрапейская краіна. Я таксама прытрымліваюся такой візіі. Выбарам расіян павінна быць: да якога цывілізацыйнага тыпу яны б хацелі належаць, да якой супольнай культуры. Мы ведаем з гісторыі расійскай культуры, што некаторыя расійскія мысляры, напрыклад, Данілеўскі, казалі пра існаванне «особого типа культуры», то ёсць рускага. Гэта ўсё эмігравала пазней і ў савецкую ідэалогію, калі казалі, што ў савецкіх людзей свой шлях да будучыні і гэтак далей. То-бок, расійская культура мае моцны сепаратысцкі погляд на тое, што з'яўляецца Еўропай. Яна сябе аддзяляе ад Еўропы. Расія да гэтага часу праводзіць ясную мяжу, што яна ёсць яна, а Еўропа гэта нешта іншае. Заходняя мяжа для Расіі яшчэ не ўсталявалася. Яна думае, што заходняя мяжа праходзіць па Бугу, па Карпатах. Але маем і іншую візію — мяжа праходзіць па Смаленскай вобласці.

**— Вы згадалі ў Краснугрудзе аб неабходнасці пабудовы новай іерархіі каштоўнасцей. Якіх? Як іх будаваць?**

— Перш за ўсё гаворка ідзе пра тое, што мы мусім адкрываць самых сябе, то-бок вартасці, якія нас будуюць. Будуюць мяне, вас як чалавека. Якія не толькі будуюць, але і мацуюць. Гэта тыя вартасці, якія можна назваць «адзіным чалавекам», які ёсць у кожным з нас. Гэта найвышэйшая вартасць. Але тут яшчэ не трэба ставіць кропку. У гэтым пункце таксама важна разумець, што мы ніколі да канца не ведаем, хто мы ёсць як людзі. І таму мы мусім быць заўсёды адкрытымі. Усведамляць і імкнуцца да таго, каб гэтую канцовасць пераадолець — гэта яшчэ адна вартасць. Дзеля гэтага неабходнае культываванне чуйнасці да будучыні і самых сябе. Гэта будаванне самых сябе, адкрыванне самых сябе, як бы сказалі хрысціяне — адкрыццё тайнага, схаванага чалавека. На жаль, еўрапейскі гуманізм страціў гэтую ідэю схаванага чалавека. А дарэмна — чалавек ёсць істота схаваная.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў Мацей ХАЛАДОЎСКІ







■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# У адным сагане

Шмат людзей з'ехала ў невялічкія Крушыняны на татарскае «Свята плуга». Сёлета праходзіла яно пад лозунгам «Фестываль смакаў адзінага Бога — малітва за мір і справядлівасць у свеце». На панадворку агратурыстычнай гаспадаркі Джанэты Багдановіч спаткаліся прадстаўнікі розных сацыяльных груп, нацый і веравызнанняў не толькі рэгіёна, але і свету: ад пасла да гаспадара, ад паляка па беларуса, а сярод іх — жыхары Крынак і наваколля больш і менш заангажаваныя ў падрыхтоўку святкавання. У адзін саган папалі таксама варэнікі, рыхтаваныя рэпрэзентантамі прысутных там нацый. Былі і нашы бульбяныя пляцкі, асабіста смажаныя віцэмаршалкам Падляшскага ваяводства Мечыславам Башко.

Святочны сход народаў пачаўся з малітвы на пляцоўцы каля крушынянскай мячэці. Пасля адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі з нагоды прысвяення мячэцям і мізарам у Крушынянах і Багоніках статусу помнікаў гісторыі.

Новае дрэва ліпы афіцыйна запусціла там свае карані ў гонар больш за 330-гадовай прысутнасці на Сакольшчыне шматлікіх нацый і веравызнанняў.

Адной з культурных прапаноў дня было наведанне мясцовых мусульманскага і праваслаўнага могільнікаў з прафесійным гідам.

Дух талерантнасці і зразумення лунаў таксама і ў канцэртнай частцы мерапрыемства. Гэтую вёў сапраўдны польскі гураль на сваёй роднай гаворцы. Яму і ў галаву не прыйшло, што камусьці можа гэта быць незразумелым, таму і вельмі здзівіўся, калі гуральскае «Зорніца» не адразу прынялося ў якасці эквівалента беларускай «Зараніцы». Са святочнай сцэны раздаваліся татарскія, яўрэйскія, інданезійскія, ромскія, польскія, украінскія, літоўскія і беларускія песні. Гэтыя апошнія выканалі «Сямейны тэрцэт» з Макаўкі, гарадоцкі «Хутар» , залуцкая «Каліна» і крынская «Зараніца». Музыканты з «Хутара» прызналіся, што ў Крушыняны завіталі ўпершыню, але вельмі ім усё спадабалася, нягледзячы на факт, што сюды трэба было прыехаць ім са сваім харчаваннем і напіткамі.

— Такое штосьць мы толькі ў фільмах бачылі, — сказалі яны. — Тут і на коней, і на людзей усякага колеру паглядзелі, і падарожжа ў часе пражылі. На такую вёску як Крушыняны гэта вялікая падзея. Мы нават і не падумалі, што тут столькі народу будзе.

Татарскае свята стала таксама месцам прамоцыі мясцовых , у асноўным жаночых суполак і арганізацый. Палатку, поўную хатніх ласункаў, паставіў, між іншым, Шудзялаўскі асяродак культуры. Яго дырэктар Альжбета Ярашэвіч разам з сяброўкамі з тамашняга Клуба сучаснай жанчыны напякла, між іншым, мясных мяшочкаў па залатоўцы за штуку, паштэцікаў, дражджовых пірагоў і сырніка па два з паловай злота за кавалак.

Са сваім багаццем з'ехаў сюды таксама лапіцкі «Торг творчасці». Адна з яго ўдзельніц, прыгожая, чарнявая крынчанка Моніка Петкель, пераапранутая ў татарскі народны касцюм, выглядала як сапраўдная татарка. Яна знаёміла ўсіх жадаючых з дзейнасцю «Торгу» пры дапамозе галерэі рукадзелля і фотаздымкаў-справаздачы з працоўных сустрэч арганізацыі.

Удзел у крушынянскім мерапрыемстве гэта сапраўднае вылучэнне і гонар, бо ж напэўна незвычайна смакуюць варэнікі з так багатага сагана.




Прысвячэнне вершаў камусьці лічыцца даволі высокай ступенню павагі да чалавека. Праўда, паэтычныя прысвячэнні бываюць розныя — так прыдворныя паэты пісалі ўзнёслыя вершы пра сваіх гаспадароў незалежна ад таго, добрыя тыя правіцелі ці не. Тое самае тычыцца і нядаўняга часу — вершы, прысвечаныя камартыйным першым асобам, наўрад ці былі вынікам душэўнага трапятання — літаратурны загад трэба было выконваць.

Цяпер вершы ў гонар вышэйшага кіраўніцтва не надта распаўсюджаныя. Затое нярэдка той-сёй з паэтычна настроеных людзей не-не ды і прысвеціць рыфмаваныя радкі асобе, якая насамрэч вартая павагі і прызнання.

Знайсці такія вершы, датычныя слынных постацей у беларускай гісторыі і культуры, з нядаўняга часу стала лягчэй. На сайце **http://belarusy.net** можна пазнаёміцца з мноствам вершаў пра знакамітых беларусаў, напісаных у розныя часы.

Галоўная старонка сайта выглядае даволі проста, але прываблівa. У левым верхнім вугле месяцца „Пагоня" і назва паэтычнай вэб-старонкі. Дарэчы, цэлая вывава выкананая ў бела-чырвоных фарбах з сінімі надпісамі.

Ніжэй загалоўка ідуць выйсці на рубрыкі сайта. Іх зусім мала — без галоўнай старонкі ўсяго толькі чатыры, прычым непасрэдна да тэмы сайта маюць дачыненне дзве — „Знакамітасці" і „Апошнія вершы". Выйсці да першай і да другой рубрык дублююцца на галоўнай старонцы ніжэй.

Згодна пададзенай на сайце інфармацыі, знакамітых беларусаў, якім прысвечаны вершы, агулным лікам дваццаць асоб. Сярод іх як гістарычныя постаці кшталту Еўфрасінні Полацкай, Усяслава Чарадзея, Францыска Скарыны, так і нашы сучаснікі — Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў, Яўгенія Янішчыц. Партрэтныя выявы ўсіх дваццаці асоб размешчаны на галоўнай старонцы. Гэта вельмі зручна, бо не патрабуе пераходу на адпаведную рубрыку, дзе даецца толькі пералік імён і прозвішчаў.

Прыемна, што стваральнікі парупіліся не толькі пра вершы аб знакамітасцях, але і пра іх біяграфіі. Калі клікнуць на кожны з партрэтаў, то адразу перад намі адкрываюцца даволі падрабязныя звесткі пра жыццёвы шлях той ці іншай асобы, а пад тэкстам месяцца прысвечаныя ім вершы.

Як вядома, сёлетнім чэрвенем спаўняецца роўна дзесяць гадоў як памёр выдатны наш пісьменнік Васіль Быкаў. Пакольці літаратар быў у жорсткай апазіцыі да дзеючай лукашэнкаўскай улады, то яна яго імкнулася не заўважаць. Але халоднае стаўленне беларускіх чыноўнікаў не абазначае такіх жа адносін з боку астатніх людзей. „Нечысць на зямлю бяду наклікала./ Перагарадзіла белы дзень гара./ Засталася Беларусь без Быкава/ Беднай хатай/ Без гаспадара...", — піша пра яго паэт Рыгор Барадулін.

„Я вам кажу, што тут ён недзе,/ на гэтым свеце і ў гэтым леце,/ на беразе жывой ракі.../ Цяпер, заўсёды і на ўсе вякі", — кажа другі паэт Анатоль Вярцінскі.

Сайт „Вершы пра знакамітых беларусаў" мае і зваротную сувязь. Праўда, магчымасцю адправіць нейкую заўвагу ці прапанову скарысталіся пакуль усяго некалькі асоб. Гэта ўказвае на тое, што на даны момант вэб-старонка не надта вядомая сярод інтэрнэт-карыстальнікаў, а значыць пік яе папулярнасці мусіць быць яшчэ наперадзе.

■ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



Бітва за вольнасць

# 150 гадоў з дня бітвы пад Мілавідамі

3 чэрвеня 1863 года (24 траўня паводле старога стылю) пад вёскай Мілавіды тагачаснага Слонімскага павета (цяпер гэта Баранавіцкі раён) адбылася буйная бітва паміж паўстанцкімі атрадамі і расійскім рэгулярным войскам.

У сярэдзіне траўня 1863 года ў лагеры пад Мілавідамі сканцэнтравалася некалькі паўстанцкіх атрадаў: слонімскі (на чале з Францішкам Юндзілам), ваўкавыскі (камандзір Густаў Стравінскі), гарадзенскі (Аляксандр Лянкевіч), навагрудскі (Вітольд Міладоўскі), пружанскі (Фелікс Влодэк). Лагер паўстанцаў знаходзіўся ў лесе каля шашы Берасце — Бабруйск. Камандаванне аб'яднанымі сіламі ўзяў на сябе былы падпалкоўнік царскага войска Аляксандр Лянкевіч (Ляндар). 21 траўня паўстанцкія сілы ў мілавідскім лагеры інспектаваў Кастусь Каліноўскі. Агулам паўстанцкія сілы налічвалі каля 800 чалавек.

На паўстанцаў царскія ўлады кінулі войскі са Слоніма і Нясвіжа. Першай падышла калона са Слоніма (3 роты Старaінгерманландскага пяхотнага палка з 4 гарматамі і коннай групай) на чале з падпалкоўнікам Булгарыным. 3 чэрвеня расійскія войскі з розных бакоў атакавалі лагер. Бой працягваўся некалькі гадзін, паўстанцы вытрымалі ўсе атакі. Калі стала цямнець, расійскія войскі адступілі на зыходныя пазіцыі, страціўшы 50 чалавек забітымі і паранenымі. Паўстанцы страцілі 18 чалавек. На дапамогу расейцам спяшалася калона з Нясвіжа (2 роты Новаінгерманландскага палка), і назаўтра атакі аднавіліся, але паўстанцы да гэтага часу пакінулі лагер і адышлі ў розных кірунках.

Паколькі поле асноўнага бою засталося за паўстанцамі, яны сталіся на гэтым полі пераможцамі. Забітыя паўстанцы і царскія вайскоўцы, паводле загаду Булгарына, былі пахаваны на супрацьлеглых баках шашы.

Па-рознаму склаўся лёс асобных паўстанцаў і іх камандзіраў. Францішак Юндзіл у жніўні перадаў камандаванне атрадам Яну Калупайлу, праз некаторы час эміграваў, дзеў у Кракаве, пазней хварэў і памёр у Парыжы. Аляксандр Лянкевіч разам з лідскімі паўстанцамі перайшоў Нёман, далей ваяваў у Аўгустоўскай губерні. У верасні 1863 года пасля няўдалай бітвы ў Зялёным лесе пад Аўгустовам, выехаў за мяжу. Завочна быў прыгавораны да смяротнай кары. Жыў у ЗША. Фелікс Влодэк таксама змог эміграваць. Вітольд Міладоўскі, атрад якога пазней разбілі, быў арыштаваны і высланы ў Сібір.

На месцы пахавання расейскіх жаўнераў у 1913 годзе быў усталяваны чыгунны крыж. У гонар паўстанцаў была пабудавана капліца-помнік у 1933 годзе. У 1990 годзе ўсталяваны яшчэ адзін памятны знак — камень з мемарыяльнай плітой і надпісам па-беларуску. У 1993 годзе Мілавідскай сярэдняй школе было прысвоена імя Аляксандра Лянкевіча, памяць пра гэтыя падзеі захоўваецца тут і ў назве вуліцы Паўстанцаў.

У Мілавідскай школе таксама ёсць музей, прысвечаны паўстанню 1863 года.

■ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# На валоканні ў Крынках

Фота Андрэя ГАРБУЗА

Трэцяя сустрэчы з мясцовымі велікоднымі традыцыямі „Ой, ішлі валакальнікі” прайшлі ў Крынках 11 траўня. Гэта адна з нешматлікіх тут форм папулярызацыі забытай культурнай спадчыны рэгіёна.

Мне пашанцавала пабываць на мінулагоднім і сёлетнім выпусках сустрэч, арганізаваных культурным аб’яднаннем „Тэрра інкогніта” і калектывам „Зараніца”. На самай справе гэта дзве і тыя ж жанчыны: Іаанна Чабан і Галена Пухальская. Дзякуючы іх намаганням зберагаецца тое, што адыходзіць у нябыт, знікае з абычаяў.

Менавіта такі лёс спаткаў славутае калісь валаканне.

Мінулагодняя сустрэча паказала як гэта адбывалася ў нашай малой айчыне. Размовы з жыхарамі наваколля, ілюстраваныя сямейнымі фотаздымкамі, увялі нас у атмасферу абраду, які цалкам знік. Ён застаўся толькі ва ўспамінах бабуль і дзядуляў. Вельмі хвалюючыя былі мінулагоднія аповеды жыхароў Азяран, Ласінян, Крушынян, Вострава ці Крынак пра валоканне — наведванне гаспадароў з велікоднымі песнямі і пажаданнямі.

Сёлетняе валакальнае мерапрыемства праходзіла ў самым сэрцы мястэчка — у парку пры Ягелонскай плошчы.

На запрашэнне крынскай суполкі „Тэрра інкогніта” адгукнуўся, між іншым, хор каталіцкай парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Вярхлессі. Жанчыны праспявалі пасхальныя касцельныя каноны і многа любімых песень іх моладасці на польскай, рускай і беларускай мовах. Сярод публікі апынуліся аднагодкі верхлясянак, якія з ахвотай далучыліся да супольных спеваў. Гэта было першае публічнае выступленне спявачак па-за межамі роднай вёскі. „Зараніца” вылавіла іх у час апошніх калядных сустрэч у тамашняй вясковай святліцы, захапіўшыся вакальнай аўтэнтычнасцю жанчын.

„Зараніца” таксама выступіла на валакальнай сцэне, але ў неспадзявана пашыраным саставе. Разам з імі паказаўся скрыпач з Нетупы Мікола Байгуз і дзіцячая „Заранка”. У іх супольным выкананні прагучалі старыя канапелькі з навакольных вёсак, сабраныя вядомым фалькларыстам Міколам Гайдуком. Дзякуючы жанчынам з „Зараніцы” старыя песні і абрады знайшлі месца і ў сэрцах наймалодшага пакалення крынчан.

Маляўнічую вакальна-танцавальную праграму падрыхтавала крынчанам „Рэчанька” з Козлікаў. Цудоўная вопратка, гук, рэпертуар з часоў бабуль і прабабуль даставілі сабраным мноства незабыўных, хвалюючых уражанняў.

У струменях дажджу прыйшлося выступаць калектыву „Грант” з паддубroўскіх Грабянёў. Вакаліст не пабаяўся непагадзі. Радасным спевам, да якога пазней далучылася Ала Каменская з „Рэчанькі”, разагнаў амаль усе цёмныя хмары над Крынкамі.

Па прычыне нестабільнага надвор’я чарговая частка мерапрыемства праходзіла ў зале Гміннага асяродка культуры ў Крынках. Там усе ахвотныя маглі паўдзельнічаць у танцавальных майстар-класах. Старыя мясцовыя шлягеры з поўнай ангажаванасцю адыгралі акардэаніст Анатоль Дарошка з Ласінян і скрыпач Мікалай Байгуз з Нетупы. Жанчыны з „Зараніцы” паказалі фігуры, між іншым, абэрка, кракавяка і вальсаў, якія падхапілі амаль усе сабраныя. Супольныя танцы стварылі настрой сапраўднага падарожжа ў часе, у вёскі, якіх ужо даўно няма.

За важную і вялікую справу ўзяліся заранічныя жанчыны. Яны, між іншым, выцягнулі з ценю забыцця апошніх вясковых музыкаў, а і сам валакальны абрад атрымаў сваё другое жыццё.

Думаю, што валакальныя сустрэчы маюць тут сваю будучыню і ўпішуцца надоўга ў каляндар крынскіх культурных мерапрыемстваў.

**Люцына ЮРКЕВІЧ**

**Пераклад з польскай мовы Іаанны ЧАБАН**




# 09.06 — 15.06

**(22.03. — 20.04.)** 9-10.06. лёгка памылішся, не бярыся за тое, у чым не разбіраешся. Пільнуй страўніка і свайго стрававальнага шляху. 10-14.06. будзь разважлівым з грашыма, бо можаш шмат страціць. Будзь асцярожным з новай інфармацыяй. Займіся рашэннем галоўнай праблемы. Пятніца — паваротны дзень, у якім шмат што можа змяніцца ў тваім жыцці.

**(21.04. — 21.05.)** Дабрабыт і бяспека; не адкладвай важных спраў. 10-14.06. будзеш адораны вялікай дапытлівасцю і фантазіяй, хаця шмат што будзеш бачыць у крывым люстры. Пазбягай у гэты час усялякіх медычных працэдур, асабліва не рві зубоў. Карысны масаж. 14.06. ідзі на важную размову да шэфа. Але 10-14.06. прадвяшчаюцца таксама трывожныя весткі, расстанні, канфлікты і скандалы.

**(22.05. — 22.06.)** Аж да 26.06. ты перапоўнены энергіяй. 9-10.06. нечаканыя здарэнні, да 12.06. вялікая напруга; у пачуццях нялёгкі выбар. Больш часу аддай свайму здароўю. Не канфліктуй з начальствам у пятніцу. Вялікія матэрыяльныя поспехі ў Блізнят народжаных 18-20.06.

**(23.06. — 23.07.)** 9-13.06. можаш разумна памагчы іншым. Будзеш узорам дысцыплінаванасці і адказнасці. Хораша задбаеш аб сваю красу. 10-14.06., асабліва калі ты на свечніку, прыватныя справы і непаладкі могуць адмоўна паўплываць на тваю прафесійную пазіцыю. Не абяцай зашмат і не падпісвай дамоў. Але аж да 27.06. — твой час: заззяеш, падзейнічаеш і будзеш узнагароджаны.

**(24.07. — 23.08.)** Няхай Ільвы без пары лепш не ладзяць раманаў з калегамі, асабліва з шэфам. Насуперак падшэптаў зорак аддзяляй прыватнае жыццё ад працы, каб не пацярпела і адно, і другое. Лішак энергіі выкарыстай на спорт — добры час на паправу фігуры. 9-10.06. лепш укусіся ва ўласны язык, бо асабліва на працы сітуацыя будзе запальная. 14-15.06. зробіш добрыя пакупкі.

**(24.08. — 23.09.)** Не паддавайся ілюзіям, што чалавека можна хутка змяніць на свой капыл. Хтосьці з блізкіх улезе ў кабалу, ты яму ўдала зможаш дапамагчы. 9-10.06. будзеш прымушаны лічыцца з людзьмі, якія гуляюць нячыста — будзь асцярожны! На канікулы не збірайся ашчаджаць. Варта зайграць у латарэю. У аўторак добра набыць дом ці загарадны ўчастак.

**(24.09. — 23.10.)** 10-14.06. у пачуццях паставіш на сваім, пакажаш сваю незалежнасць. Магчымыя некарысныя павароты сітуацый, якія выклічуць нервовыя змены планаў. 9-10.06. магчымыя вострыя спрэчкі ў сям'і, можа расскрэзіцца дробны падман і спробы маніпуляцыі, прытым табе можа балець і кружыцца галава, скакаць ціск крыві. 10-14.06. схоча табе моцна зашкодзіць далейшы сваяк.

**(24.10. — 22.11.)** 9-10.06. хтосьці са знаёмых можа выявіць чорную таямніцу, якая табой добра страсяне! Цяжкавата будзе табе дагаварыцца з іншымі, асабліва з шэфам, пільнуйся таксама, з кім маеш дачыненне (могуць цябе падставіць знаёмыя). Цяжкі час для пачуццяў і кахання, стрэс; не едзь на аўто. Будзь асцярожны і з вадою. Не рабі больш чым можаш і не гавары больш чым ведаеш. Расстанні цяпер будуць назаўсёды.

**(23.11. — 22.12.)** Форма такая сабе аж да 21 чэрвеня. 9-10.06. фінансавыя праблемы; не падпісвай дамоў. 10-14.06. на тваёй дарозе лёс паставіць чалавека, з якім знойдзеш супольную гаворку; можа не кончыцца гэта на размове. Калі інвестуеш — будзь асцярожным, грошы лепш выдай на курсы і кніжкі. Калі забаліць зуб, пры да лекара, каб яго не страціць.

**(23.12. — 20.01.)** Паладзяцца ўсе хатнія непаразуменні. 9-13.06. у тваю галаву будуць залятаць самыя цікавыя задумы. Вельмі пільнуйся з 13.06. (да 17.06.) — будуць напругі, цяжкасці, а нават пагроза жыццю; асабліва не шалей за рулём!

**(21.01. — 19.02.)** 9-10.06. дома пагражаюць важкія скандалы, магчымы таксама фінансавы землятрус, хтосьці схоча выкарыстаць супрацу цябе інфармацыю. Таму хутка дзейнічай, каб выбрацца з кабалы! 9-13.06. — час спрыяльны для развязкі праблем. 10-13.06. могуць адазвацца старыя праблемы са здароўем, асабліва з ныркамі (еж толькі здаровае). Ды 10-14.06. лепш не выбірайся на важныя сустрэчы, рандэву.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Аж да 26.06. — час для закахання. З 12 (да 16.06.) хораша задбаеш аб валасы і цела. 9-10.06. не адступайся, каб не страціць. 10-14.06. не пераборшчвай з бравурнасцю, адвагай; лепш пазбягай важных рашэнняў і размоў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм Станіслава Ежы Леца.

1. кавалак тонкай празрыстай матэрыі прымацаваны да жаночага капялюша для закрыцця твару = 32 _ 33 _ 29 _ 30 _ 20 _;
2. вялікі праваслаўны мужчынскі манастыр = 1 _ 2 _ 3 _ 4 _ 31 _;
3. мастацтва Яна Тарасевіча = 10 _ 14 _ 11 _ 5 _ 21 _ 22 _;
4. маці паніча = 13 _ 17 _ 25 _ 26 _;
5. „Гарадзец”, прадпрыемства, якім загадваў Аляксандр Лукашэнка да выхаду на пасаду прэзідэнта Беларусі = 8 _ 9 _ 27 _ 28 _ 12 _ 15 _;
6. вялікі скрутак, напрыклад, саломы = 19 _ 18 _ 16 _;
7. шкляная пасудзіна для піцця віна = 6 _ 7 _ 23 _ 24 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | | | | | | | 27 |
| | | | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Бегемот, фа, алоэ, гранд, аўторак, Ге, пліта, штаны, файл, Ірак, кашубы, пядзя, конь.

Рашэнне: **Галодны кот гэта найлепшы будзільнік**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Як у нас вырашаюць занядбанні ў беларускім школьніцтве?!

**Беларускае школьніцтва на Беласточчыне на сённяшні дзень — поўная недахопаў і недарэчнасцей з'ява. На самай справе працэс адбываецца па-за кантролем адукацыйных устаноў і арганізацый. Пра ўсё вырашаюць самаўрады, якія не заўсёды праяўляюць зразуменне і добрую волю для развіцця беларускага школьніцтва.**





Настаўнікі і працаўнікі міністэрстваў сустрэліся, каб абмеркаваць стратэгію навучання беларускай мовы, 21 мая 2013 г.

Нядаўна я сама была сведкам шакіруючай і недарэчнай з'явы. У час сяброўскай сустрэчы ў Бабіках на Сакольшчыне аказалася, што там для навучання беларускай мовы адведзена адна гадзіна ў тыдзень. Недахоп цягнуўся ўжо трэці год. Дырэктар і настаўніца беларускай мовы не ведалі як высветліць усю сітуацыю.

Калі я з пытаннем звярнулася да сакратар гміны (адказнай за школьніцтва), пачула тлумачэнне:

— Гэтая сітуацыя ўзнікла яшчэ пры старым войце, — адказала Альжбета Марыя Гарбацэвіч. Каб паказаць сваё „пазітыўнае" стаўленне да мовы, чыноўніца прыгадала рэгіянальны гурток, які існуе ў Шудзялаве.

— Такія гурткі існуюць на іншых прынцыпах.

— Згодна, але мы пра гэта не ведалі...

Чыноўніца запэўніла, што ад верасня ў Шудзялаве пачнуць нармальнае навучанне, згодна з законамі...

Больш-менш у тым самым часе зусім выпадкова я даведалася пра „выпадковыя ўрокі" ў Міхалове. Па прычыне здароўя настаўніцы беларускай мовы, якая апынулася ў бальнічным водпуску, там пачаліся заступствы...

— Тады хто вядзе ўрокі, калі настаўніцы няма ў школе?

— Той, у каго вольная гадзіна, — адказалі мне (па тэлефоне) у канцылярыі школы.

— Гэта значыць, што на ўроках беларускай мовы могуць навучаць матэматыцы або польскай мове?

— Можа так быць, — пачулася ў адказ. Жанчына дадала, што такія заступствы — добрая воля настаўніка, бо за гэта няма грошай...

* * *

21 мая г.г. у Беластоцкай куратарыі адбылося чарговае ўжо спатканне ў справе стратэгіі навучання беларускай мове. З настаўнікамі і бацькамі ды СМІ сустрэліся прадстаўнікі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Міністэрства нацыянальнай адукацыі і Беластоцкай куратарыі асветы. Трохгадзінная сустрэча аказалася дзелавой і сутнаснай, у асноўным датычыла яна правак да першай рэдакцыі дакумента, напісанага ў Варшаве. Дакумент ставіць сабе за мэту вызначыць накірункі і пасрыяць развіццю беларускага школьніцтва ў Польшчы. У час папярэдніх сустрэч настаўнікі аднадушным хорам заявілі пра патрэбу новых падручнікаў і дапаможнікаў. Сярод найбольшых праблем на сённяшні дзень — празрыстасць фінансавання ўрокаў беларускай мовы. Пра тое, што самаўрады атрымліваюць дадатковыя сродкі на навучанне бларускай мовы ведаюць усе настаўнікі і дырэктары, аднак не ведаюць, якая гэта сума...

— Трэба палічыць розніцу паміж датацыяй і субвенцыяй, — падказалі прадстаўнікі МАіЛ. Прыклад Шудзялаўскай і Міхалоўскай гмін падказвае, што беларускаму школьніцтву неабходны маніторынг, які на хаду будзе ўстараняць недарэчныя з'явы і замоўчаныя хібы. Апошнюю справу трэба вырашаць на аснове абавязваючых прынцыпаў і законаў. Парадкаванне спраў рукамі самаўрадаўцаў, — як гэта адбываецца ў наш час, — можа навесці яшчэ больш шкоды і непрыемнасці. Вось, пасля майго званка ў Шудзялава ў гміне пачалі парадкаваць свае занядбанні і незаконныя дзеянні коштам настаўнікаў беларускай мовы. На пачатку падумалі, каб замест нармальнага навучання зрабіць міжкласныя гурткі (і яшчэ зменшыць гадзіны) ды ліквідаваць рэгіянальны гурток, які раптам стаў непатрэбным. Нікога не цікавіць, што гурток карыстаецца вялікім зацікаўленнем і сімпатыяй вучняў і бацькоў. Ды што цяпер зрабіць з тымі вучнямі, якія хочуць працягваць свае зацікаўленні на ўроках рэгіянальнага гуртка? Вучні старэйшых класаў не ў змозе апанаваць школьную праграму з пісьмом і літаратурай. З-за камбінацый самаўрадаўцаў іх адукацыя па беларускай мове і адпаведныя карысці, якімі карыстаюцца навучэнцы ў многіх школах, прайшлі бокам. Хто за гэта адкажа?

Адным словам, робіцца ўсё, каб пакарыстацца датацыямі і не рабіць нічога...

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

# Ушанавалі памяць ахвяр





Напярэдадні свята Мучанікаў Холмскіх і Падляшскіх на фейсбуку з'явіўся супярэчлівы допіс пра добрыя адносіны і сімпатыю Рамуальда Райса (псеўданім „Буры") да беларусаў. Гэтыя словы выказаў ветэран, удзельнік узброенага падполля і паплечнік Рамуальда Райса. Ветэран не ўспрымаў рашэння незалежнага суда, які дзеянні „Бурага" ў 1946 годзе на Беласточчыне адназначна назваў актам генацыду.

Мала хто з карыстальнікаў фейсбука адрэагаваў на крывадушны допіс ветарана і фаната „Бурага" — і ў гэтым быў сэнс. Каментары і адгалоскі на інтэрнэтных старонках нічога не вырашаюць.

Затое вельмі ўзрушыла мяне ўражлівасць духавенства і вернікаў Свята-Духаўскай царквы ў Беластоку. 2 чэрвеня г.г., у дзень св. Мучанікаў Холмскіх і Падляшскіх, вернікі і духавенства памаліліся за ахвяры пасляваеннага пераследу за веру і нацыянальнасць ды пакланіліся трагічна загінулым з рук польскага ўзброенага падполля — жыхарам беларускіх вёсак Залешаны, Зані, Шпакі, Патока, Канцавізна... Паніхіду адслужылі ля новай каплічкі, узведзенай (і асвечанай год таму) у памяць ахвяр, сярод якіх былі звычайныя вяскоўцы, жанчыны і дзеці. Памяць (запісаная ў камені) і малітва за ахвяры генацыду — найлепшая форма ўшанавання нявіннага цярпення і смерці. Такія моманты мацуюць таксама сувязі паміж вернікамі і пакаленнямі. Важна, што ў кантэксце гэтага свята ўзгадваюцца ахвяры пацярпелыя за нацыянальнасць (!).

Пасля паніхіды старэйшыя людзі затрымліваліся ля каплічкі, каб у цішы і засяроджанасці паўспамінаць пасляваеннае ліхалецце, а таксама палечыць сямейныя траўмы. Як нашчадкі ахвяр, яны размаўлялі сцішаным голасам, па-польску...

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960